ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№2 (71) люты 2017 год
CATHOLICNEWS.BY

# З пастырскімі візітацыямі біскуп Алег Буткевіч наведаў парафіі




Мёры
Стар. 9


Друя
Стар. 5


Шаркаўшчына
Стар. 8

## Як стварыць новую сям'ю, калі ўжо браў шлюб?


Стар. 13

## Сястра Стэла Ядкоўская служыць хворым і тым, хто ў цярпенні


Стар. 4

## Майстар-клас па кераміцы ў Ляскоўцы


Стар. 14

# Святы Айцец патэлефанаваў да хворага кардынала

**Францішак патэлефанаваў да арцыбіскупа Пражскага на пенсіі, кардынала Міласлава Влка, каб выказаць яму сваю падтрымку. Іерарх пакутуе ад раку.**



Падчас размовы, якая працягвалася некалькі хвілін, Пантыфік размаўляў з кардыналам пра яго захворванне і лячэнне. Іерарх запэўніў Папу, што захоўвае добры настрой і што ў гэтым яму дапамагаюць апека і клопат тых, хто знаходзіцца побач.

Паўтара тыдня таму Кардынал Влк на сваёй інтэрнэт-старонцы паведаміў, што пакутуе ад раку лёгкіх з метастазамі ў косці і чакае хіміятэрапіі. У цяперашні час ён знаходзіцца на плябаніі ў пражскім раёне Карлін, дзе пробашчам з'яўляецца яго блізкі паплечнік, што належыць, як і сам былы арцыбіскуп Пражскі, да Руху факаляраў.

Міласлаў Влк прыняў святарскае пасвячэнне ў 1968 годзе. Вёў душпастырскую працу і быў сакратаром біскупа Чэске-Будэёвіц. Неўзабаве стаў аб'ектам пераследу з боку камуністычнага рэжыму. Спачатку, у 1971 годзе, быў накіраваны на працу ў аддаленыя горныя парафіі, а ў 1978 годзе пазбаўлены магчымасці займацца святарскім служэннем. У гэты перыяд ён таемна прабываў у Празе, у прыватнасці як ачышчальнік шкла і архівіст у банку.

Зноў вярнуцца да душпастырства ён змог у 1989 годзе. У 1990-м быў прызначаны біскупам Чэске-Будэёвіц, а праз год – арцыбіскупам Прагі. У 1994 годзе Ян Павел II узвёў іерарха ў кардынальскую годнасць.

*Ватыканскае радыё*

# Египетские христиане получили право на оплачиваемый отпуск для поездки в паломничество

**Верховный суд Египта постановил предоставить христианам право на оплачиваемый отпуск с целью совершения паломничества, сообщает Christian Today. Ранее таким правом обладали только мусульмане.**

Мусульмане, служащие в государственных учреждениях Египта, уже давно имели право на оплачиваемый отпуск ради совершения хаджа – паломничества в Мекку. В минувшие выходные Верховный Конституционный суд Страны пирамид постановил, что христиане, работающие в госучреждениях, обладают таким же правом.

"Это решение стало важным шагом к установлению полного равноправия для христиан Египта", – прокомментировал постановление суда христианский юрист Нагиб Габриэль, который в течение трех лет добивался такого решения.

Мусульмане Египта получили право на отпуск ради совершения хаджа в 1978 году. Теперь Конституционный суд постановил, что лишение христиан аналогичной возможности противоречит конституции страны. Нынешняя конституция Египта была принята на референдуме в 2014 году и гарантирует равные права последователям всех религий.

Христиане составляют сегодня около 10% 93-миллионного населения Египта. Большинство из них принадлежит к Коптской Церкви, одна из традиций которой – совершать паломничество ко Гробу Господню в Иерусалим. Эта традиция почти прервалась в 1979 году, когда коптский Патриарх Шенуда III на фоне арабо-израильского конфликта наложил запрет на паломничества своей паствы в Святую Землю. При нынешнем Патриархе Тавадросе II этот запрет был фактически снят, и число коптов, путешествующих в Иерусалим, постоянно растет.

*blagovest-info.ru*



# 5 недахопаў Езуса

**В'етнамскі кардынал Франсуа Ксавье Нгуен Ван Туан і яго незвычайнае жыццё заслугоўваюць таго, каб даведацца пра яго больш, асабліва пра яго вялікую любоў да Эўхарыстыі.**





Зняволены камуністычным рэжымам на працягу трынаццаці гадоў (дзевяць з якіх ён правёў у адзіночнай камеры), кардынал служыў іншым нават у гэты час выпрабаванняў. Па словах дыякана Грэга Кандры, Туану дазволілі "адну раскошу": ён мог пісаць лісты да сяброў на волі. Калі перапісваўся, то часта прасіў іх даслаць яму тое, што назваў "сваімі лекамі".

Сябры ведалі, што ён меў на ўвазе. Яны слалі яму бутэльку з-пад сіропу ад кашлю, напоўненую вінам і маленькімі кавалачкамі хлеба. Добразычлівыя ахоўнікі ціха пранеслі яму трохі дрэва і дрот, з чаго Ван Туан зрабіў маленькі крыж, які хаваў у кавалку мыла.

Ён трымаў усё гэта ў скрынцы, што стала яго асабістым алтаром. Штодня а 15.00, у гадзіну смерці Хрыста, Ван Туан налівaў у свае далоні кроплі віна і змешваў яго з вадой, каб адправіць Імшу.

Самы вялікі цуд у гісторыі мог адбыцца зноў. Цесная камера стала прыгожай і асвячонай, як нейкі сабор, санктуарый для славы Божай. Ён рабіў гэта на працягу трынаццаці гадоў.

У сваёй прамове ў 2000 годзе Ван Туан сказаў, што ён сустрэў "жывога Езуса". *"Ён зачараваў мяне. Я пайшоў за Ім – я люблю недахопы Езуса"*. Гэтую прамову можна знайсці ў адной з яго кніг пад назвай "Сведкі надзеі".

## Першы недахоп: Езус мeў дрэнную памяць

Паміраючы на крыжы, Езус пачуў голас аднаго разбойніка: *"Езу, узгадай мяне, калі прыйдзеш у сваё Валадарства"* (Лк 23, 42). Калі б гэта быў я, то адказаў бы яму: *"Не забуду цябе, але ты павінен загладзіць свае злачынствы і сысці ў чысцец гадоў на дваццаць"*.

Езус, наадварот, сказаў: *"Сёння ж будзеш са Мною ў раі"*. Ён забыўся пра яго грахі... Ён не толькі прабачае: Ён прабачае ўсё.

## Другі недахоп: Езус дрэнна ведаў матэматыку

Калі б Езус здаваў экзамен па матэматыцы, Ён бы праваліўся. У пастуха было 100 авечак, адна з іх заблудзілася. Пастух неадкладна пайшоў шукаць яе, пакінуўшы астатніх 99 авечак. Калі ён знайшоў страчаную, то паклаў яе на свае плечы (гл. Лк 15, 4-5). Для Езуса 1 авечка роўная 99, а можа нават больш...

## Трэці недахоп: Езус не вельмі разбіраўся ў логіцы

Аднойчы ноччу жанчына, якая мела 10 драхмаў, страціла адну з іх і запаліла лямпу, каб знайсці яе. Калі яна яе знайшла, то запрасіла сваіх суседзяў і сказала ім: *"Радуйцеся са мной, таму што я знайшла драхму, якую страціла"* (Лк 15, 9). Але святкаванне з сяброўкамі, верагодна, каштавала больш за адну драхму. Для нас гэта нелагічна! Але *"анёлы Божыя радуюцца за аднаго грэшніка, які каіцца"*.

## Чацвёрты недахоп: Езус занадта рызыкуе

Асоба, адказная за рэкламу кампаніі, ці палітык перад выбарамі рыхтуюць дакладную праграму з многімі абяцаннямі. Езус абяцае непрыемнасці, цяжкі вопыт і пераслед тых, хто пойдзе за Ім. Ён папярэджвае іх, што *"Сын Чалавечы не мае дзе прыхіліць галаву"* (Мц 8, 20).

Ён пасылае апосталаў у галечы і без усялякага пэўнага плану. Так, каб яны цалкам даверыліся Провіду.

## Пяты недахоп: Ён жахлівы фінансавы дырэктар!

Калі б Езус быў дырэктарам кампаніі, то яе справы, хутчэй за ўсё, ішлі б вельмі дрэнна, таму што Ён хацеў плаціць аднолькавую зарплату тым, хто пачаў працаваць у першай палове дня, і тым, хто працаваў у другой палове. І Ён зрабіў гэта наўмысна. *"Вазьмі сваё і ідзі. Я ж хачу даць гэтаму апошняму так, як і табе... Ці вока тваё зайздросціць, што Я добры?"*(Мц 20, 14-15).

Што з'яўляецца крыніцай недахопаў Езуса? Любоў. Таму што Ён – Бог міласэрнасці і ўцелаўлёнай Любові. Божая любоў (пар. 1 Ян 4, 16) – любоў не рацыянальная, з розніцы пры ўмове; гэта любоў, якая адорвае і служыць, разумее і даруе. Наколькі? Бясконца!

Недахопы Езуса, вучыў кардынал Туан, – гэта наш шлях да шчасця.

*Паводле матэрыялаў Aleteia*

# Біскуп Алег Буткевіч адкрыў выставу жывапісных твораў у браслаўскім музеі і прымерыў вышыванку

**У Браславе ў Музеі традыцыйнай культуры 4 лютага адкрылася выстава жывапісных прац з калекцыі настаяцеля парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Друі кс. Сяргея Сурыновіча. Усе творы – вынік Другога друйскага мастацкага пленэру “Пачаткі”, што адбыўся летась.**

Паводле паведамленняў рэсурса Крыніца.info, выставу, якая складаецца з 38-і прац, адкрыў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч – браслаўчанін па нараджэнні. Ён прыехаў у родны горад адмыслова, каб пагледзець выставу, паразмаўляць з супрацоўнікамі музея і шматлікімі гледачамі пра повязь мастацтва зямных майстроў і мастацтва стварэння Госпадам свету, нагадаць, што дадзены з неба мастаку талент робіць яго сутворцам Нябёсаў.

“Не самае галоўнае – наколькі запатрабаваныя творы новых, маладых мастакоў сёння, наколькі поўныя гледачамі залы. Гэта праца і для нашчадкаў, для якіх мастакі адкрываюць абразкі навакольнага свету, захоўваючы традыцыі нацыянальнага мастацтва”, – падкрэсліў біскуп, які вельмі цікавіцца жывапісам і сам мае невялікую калекцыю твораў, натхнёных краявідамі Браслаўшчыны.

Прысутныя знаёміліся з палотнамі пад гукі скрыпкі: кіраўніца друйскага струннага аркестра Валянціна Казакевіч падрыхтавала адмысловую праграму для суправаджэння выставы.



Пасля ўрачыстай цырымоніі музейшчыкі запрасілі біскупа на чаяванне і падарылі яму вышываную кашулю, створаную рукамі майстрыхі Марыі Дворскай, і тканы пояс працы Наталлі Парахневіч. Абедзве яны супрацоўніцы музею. Асаблівую радасць гаспадароў выклікала згода біскупа Буткевіча прымерыць падарунак непасрэдна пры іх прысутнасці.

*Паводле Крыніца.info*




# З ватыканскіх еўра знікне вобраз Папы Францішка

**Папа Францішак не хоча, каб яго вобраз змяшчалі на ватыканскіх еўра.**

У новай эмісіі на манетах будзе віднецца толькі папскі герб, пацвердзілі нямецкаму каталіцкаму агенцтву “KNA” ў Ватыканскім філатэлістычна-нумізматычным бюро. Там паведамілі, што з моманту з’яўлення ватыканскіх еўра ў 2002 годзе гэта першы выпадак, калі на манетах не будзе выявы дзейнага Пантыфіка.

Да гэтага часу вобраз Францішка ў трох розных версіях аздабляў ватыканскія манеты ад аднаго цэнта да двух еўра. Аб тым, што яго больш не будзе, першым паінфармаваў бюлетэнь Еўрапейскага саюза 24 студзеня 2017 г. Там нагадалі таксама: нягледзячы на тое, што Ватыкан не з’яўляецца чальцом ЕС, яму было дазволена выдаваць манеты еўра. У адпаведнасці з пагадненнем з Еўрапейскім Саюзам з 2010 г., дзяржава можа выпускаць манеты агульным коштам 2,3 млн еўра. Да гэтага дадаецца яшчэ невялікая, зменная сума, якая разлічваецца праз рэгулярныя прамежкі часу.

Ватыканскія манеты цэняцца сярод нумізматаў. Дзяржава, аднак, абавязана выпускаць у абарот не менш за 51% ад агульнага аб’ёму эмісіі.

Большасць нумізматаў сыходзяцца ў меркаванні, што час пантыфікату Папы Адрыяна I (772-795 гг.) з’яўляецца пачаткам вытворчасці папскіх манет. Гэты Пантыфік загадаў чаканіць грошы пасля франкскага нашэсця. Паміж 772 і 983 гг. Папы выпускалі манеты пераважна разам з імператарамі. Яўген IV у XV ст. увёў папскі дукат (ducato papale). На ім былі змешчаны або выява, або герб Пантыфіка.

Да канца XIX ст. у гісторыі папскіх манет быў час, калі яны не чаканіліся: перыяд існавання першай “Рымскай рэспублікі” (1798-1799 гг.), перыяд акупацыі Рыма войскамі імператара Напалеона, пры другой “Рымскай рэспубліцы” (1849 г.).

Першыя папскія манеты, прынятыя ў абарачэнне, з’явіліся ў 1931 г. Ватыканская ліра мела хаджэнне ў Ватыкане, Сан-Марына і Італіі. У 2012 г. завяршыўся абмен гэтай валюты на еўра. Ватыкан не мае свайго эмісійнага цэнтра, і гэтыя функцыі ўскладзены на Манетны двор Італіі.

*Ватыканскае радыё*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*“Каталіцкі Веснік”*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар’янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце “Газетная закрыстыя”. Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце “Каталіцкі Веснік” Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*“Каталіцкага Весніка”*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# 50 гадоў у лякарні

## Сястра Стэла Ядкоўская служыць хворым і тым, хто ў цярпенні



**З 1993 года Каталіцкі Касцёл штогод адзначае 11 лютага Сусветны дзень хворага. Гэта яшчэ адна незвычайна каштоўная душпастырская ініцыятыва Яна Паўла ІІ.**

**Кс. Юрый Марціновіч**, *grodnensis.by*

Гэтая ініцыятыва была водгукам на просьбы і прапановы з розных бакоў хаця б адзін дзень у годзе прысвяціць асаблівым чынам тым, хто па фізічных ці духоўных прычынах чакае нашай дапамогі. Сёлета Сусветны дзень хворага будзе адзначацца ў 25-ы раз.

Ужо 50 гадоў нясе духоўную дапамогу хворым у лякарнях сястра Стэла Ядкоўская, назарэтанка. Яна – апостал лякарняў Гродна, што прыносіць надзею тым, хто яе не мае.

### Нельга прайсці абыякава каля цярпення

Сваё служэнне ў лякарні сястра Стэла пачала ў 1966 годзе, працуючы ў той час медсястрой. Тады яна была ўжо манахіняй, але ў бальніцы пра гэта не ведалі. Выконваючы дaручаныя ёй абавязкі, яна не толькі клапацілася, каб даць пацыентам адпаведныя лекі, але і цікавілася іх духоўным жыццём. Калі нехта з іх хацеў прыняць сакраманты, сястра прыводзіла ў лякарню святара.

Манахіня цалкам прысвяціла жыццё хворым і тым, хто ў цярпенні. Яна не можа абыякава праходзіць каля людзей, каторыя маюць патрэбу ў падтрымцы, затрымліваецца ля кожнага бальнічнага ложка, найперш пытаючыся, ці не патрэбныя хворым святыя сакраманты.

Звычайны дзень сястры Стэлы пачынаецца вельмі рана. Пасля ранішніх малітваў, удзелу ў святой Імшы і хуткага сняданку яна ідзе ў лякарню. Апранае белы халат на свой манаскі габіт і абыходзіць усе паверхі і аддзяленні, каб даведацца, каму патрэбны святар, гаворыць пацыентам словы падтрымкі, запэўнівае ў малітве.

У Гродзенскай бальніцы хуткай дапамогі 200 палат. У тыдзень манахіня наведвае восем бальніц – кожны дзень іншую. Не раз здараецца так, што яна павінна наведаць дзве ў дзень, бо, як кажа сама, дзён ёй не хапае. “Калі я ўдзельнічаю ў духоўных разважаннях, то павінна нярэдка ісці да маіх хворых у нядзелю альбо нават вечарам пасля духоўных разважанняў, бо нельга ж пакінуць людзей”, – дадае сястра.

### Малітва за духоўна згубленых

Кожны дзень сястры Стэлы выглядае амаль аднолькава, акрамя нядзелі. У манаскі дом яна вяртаецца каля 18.00, аднак думкамі і сэрцам застаецца са сваімі хворымі. Яна пачынае маліцца ў інтэнцыях тых людзей, каго сустракала на працягу дня. Манахіня моліцца перад Найсвяцейшым Сакрамантам, узгадвае і ўсіх тых, хто, рыхтуючыся да сур’ёзнай аперацыі, прасіў яе пра малітву, і тых, каторыя ляжаць у коме. Сястра прыносіць усё гэта ў малітве Богу – найлепшаму Лекару, Які дасканала ведае, што патрэбна чалавеку ў дадзеную хвіліну.

Асабліва памятае сястра і пра тых людзей, якія духоўна згубіліся, якія падчас сустрэч у лякарні на пытанне, ці патрэбна ім сакрамантальная паслуга, адказваюць: мы не верым, Бог нам непатрэбны і мы не хочам бачыць святара.

„Калі хтосьці мне кажа, што ён не вернік, то такі чалавек надоўга застаецца ў маёй памяці. Тады я вельмі перажываю праз тое, каб ён здолеў перад смерцю паяднацца з Богам. У малітве ўзгадваю гэтага чалавека і прашу Бога, каб даў яму святло веры”, – дадае сястра Стэла.

### Паяднанне чалавека з Богам – вялікі дар Божай любові

Штодзённае служэнне хворым прыносіць сястры радасць. Аднак кожная сустрэча з хворым, які просіць пра сакрамант споведзі, з’яўляецца для яе вялікім дарам Божай любові.

„Для мяне асабіста вялікая радасць, калі чалавек яднаецца з Богам, бо гэта для яго вялікая Божая ласка. І нават калі такі чалавек не вяртаецца да здароўя, а з прычыны нейкай сур’ёзнай хваробы памірае, я шчаслівая і спакойная, бо ён атрымаў святыя сакраманты, дакрануўся да Бога”, – адзначае сястра і дадае, што прысутнасць у лякарні ці хоспісе духоўнай асобы – вялікая духоўная падтрымка для хворых.

Сястра Стэла Ядкоўская дала пачатак таксама бальнічным капліцам у гродзенскіх лякарнях, хоць іх стварэннебылонялёгкайсправай. “У лякарні павінна быць святая Імша, павінна быць вылучана спецыяльнае месца для малітвы. Людзям патрэбны Бог!” – так казала манахіня кіраўніцтву ўстановаў. Сёння ў горадзе над Нёманам ёсць чатыры такія капліцы, дзе захоўваецца Найсвяцейшы Сакрамант, куды пацыенты на працягу дня могуць прыйсці, а таксама ўдзельнічаць у Імшы. Гэтыя капліцы – асаблівае месца, дзе чалавек сустракае Бога. Тыя, каму дазваляе стан здароўя, прыходзяць сюды на малітву. Асабліва практыкуецца ў гэтых месцах Вяночак да Божай Міласэрнасці, які моляцца хворыя. Гэта надзвычай важна, калі чалавек у час цярпення мае патрэбу ў Божай падтрымцы.

Няхай Сусветны дзень хворага, які адзначаецца ў гэтым годзе ўжо ў 25-ы раз, нагадае ўсім пра нашых братоў, што знаходзяцца ў цярпенні, і навучыць чуласці да іншага чалавека. А тых, хто церпіць, няхай навучыць пакоры, навучыць цалкам давяраць усе сваё штодзённыя клопаты Пану.

# Святы з псіхдыспансера

## Святы Ян Божы (1495-1550)



На яго пахаванне прыйшлі натоўпы ўдзячных людзей. Адны дзякавалі за гады стараннай апекі ў часе хваробы, іншыя – за апеку над іх роднымі, трэція – проста чулі пра гэтага святога чалавека. Святога, які ратаваў іншых з хваробы, прыніжэння, агню, вады, але не здолеў уратаваць сваю родную маці ад адзіноты.

Маці Яна памерла ад тугі па сваім сыне, які так рана пакінуў сям’ю. Хлопец нарадзіўся ў эпоху вялікіх геаграфічных адкрыццяў. Яго заўсёды цягнула ў шлях, каб зведаць свет. Ён уцёк з бацькоўскага дома, маючы восем гадоў, і тым самым асудзіў самых блізкіх сабе людзей на цярпенне, пакуты і адзіноту.

Правёўшы трыццаць гадоў па-за роднай мясцовасцю, Ян шмат перажыў: выхоўваўся ў прыёмнай сям’і, здабыў адукацыю, ваяваў, быў звольнены са службы, зноў ваяваў, зведваючы розныя еўрапейскія краіны. Стаміўшыся вандроўным жыццём, Ян вяртаецца ў родныя старонкі. Тут чакае нялёгкая праўда пра самога сябе: бацькоў ужо даўно няма. Мама не вытрымала адзіноты і ўсведамлення знікнення сына і памерла, а бацька, страціўшы сям’ю, уступіў у кляштар францішканаў і там сканаў. Уцякаючы ад разумення, што яго дзіцячы выбрык зрабіў нешчаслівымі бацькоў і фактычна вельмі скараціў ім жыццё, Ян накіроўваецца аж у Афрыку і там працуе як вольнанаёмнік.

Вярнуўшыся ў Еўропу, у Гранаду, ён трапляе на казанне Яна з Авілі, апостала Андалузіі. Пакаянне Яна было такім глыбокім і такім нетыповым перажываннем, што людзі палічылі яго псіхічна хворым і змясцілі ў шпіталь. Там Ян зведаў жорсткія адносіны да сябе і да іншых. Цярпліва чакаў, пакуль выйдзе з лячэбніцы, каб заснаваць свой шпіталь для дапамогі псіхічна хворым.

У шпіталі Яна да хворага ставіліся, як да раўнацэннага чалавека: дбалі пра гігіену і пазбягалі гвалту. Ян заняўся ўсімі абяздоленымі ў горадзе: бяздомнымі, хворымі, адкінутымі грамадствам.

Будучы святы неаднаразова меў містычныя візіі. Аднойчы, мыючы ногі свайму хвораму, ён убачыў на іх стыгматы, раны мукі Хрыста! Падняўшы галаву, убачыў німб над мужчынам і пачуў: “Усё, што ты зробіш ім, зробіш Мне!”

Не задбаўшы пра сваіх бацькоў, Ян стараўся сваё жыццё аддаць іншым. Многія не раз былі сведкамі, як ён рызыкаваў, ратуючы людзей. Аднойчы Ян да апошняга выцягваў з пажару пацыентаў і маёмасць, а астатняга чалавека вынес з такога пекла, што ўсе былі перакананыя: жывы ніхто ніколі з такога агню не выйдзе, і прызналі гэта здарэнне Божым цудам.

Але памёр Ян не ад агню, а якраз ад процілеглай стыхіі – ад вады. Аднойчы ён кінуўся ў халодную раку ратаваць хлопчыка, потым захварэў і хутка памёр. Паміраў ён самотна, бо так пажадаў, магчыма, гэта быў апошні акт яго пакуты за грахі перад сваімі бацькамі.

Да сённяшняга дня ў свеце існуюць браты баніфраты, якія апякуюцца хворымі.

*а. Андрэй Сідаровіч,*
*марыянін з Росіцы*

# Біскуп Алег Буткевіч наведаў Друйскую парафію з пастырскай візітацыяй



**Гэта адбылося ў нядзелю, 29 студзеня. Трэба адзначыць, што візітацыя пачалася на дзень раней, калі біскуп сустрэўся з дзецьмі і моладдзю і наведаў шпіталь. Другі дзень візітацыі распачаўся а дзясятай гадзіне з Імшы ў друйскім касцёле.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

### Для Бога няма нічога немагчымага

Перад пачаткам богаслужэння ўсе вернікі выйшлі з храма, каб урачыста сустрэць свайго пастыра. Пасля вяртання ў святыню адбылася малітва за біскупа, якую прачытаў пробашч парафіі ксёндз Сяргей Сурыновіч. Потым святар коратка распавёў пра гісторыю Друйскай парафіі, якая налічвае ўжо амаль чатыры стагоддзі.

Прадстаўнікі парафіі прывіталі іерарха і падарылі яму карціну з відам касцёла ў Друі. На пачатку Імшы біскуп узгадаў, што парафія ў Друі дарагая яго сэрцу, паколькі менавіта тут ён прымаў удзел у рэкалекцыях для будучых святароў. Біскуп адзначыў, што друйскія вернікі маюць не толькі цвёрдасць духу, але і загартаванасць цела, бо ў касцёле было даволі холадна.

У сваім звароце да вернікаў ён адзначыў важнасць Божага слова як падмурка ў жыцці. Іерарх узгадаў няпростую гісторыю парафіі ў XX стагоддзі, калі святары пераследаваліся як з боку нямецкіх акупацыйных уладаў, так потым і савецкіх. Дарэчы, апошнія не толькі пераследавалі святароў, але і адабралі ў вернікаў храм у 1948 годзе. Больш за чатыры дзесяцігоддзі ён выкарыстоўваўся то як склад, а то проста стаяў занядбаны.

Але для Бога няма нічога немагчымага. Часы змяніліся, і ў храме ў Друі зноў гучыць слова Божае. Вядома, шмат яшчэ што тут трэба зрабіць, будынак касцёла патрабуе далейшага рамонту, але з Божай дапамогай усё магчыма. Бо “хрысціянства існуе ўжо дзве тысячы гадоў, і за гэты час ніхто не змог яго знішчыць”.

У якасці прыкладу цвёрдасці веры біскуп узгадаў святароў, што служылі ў свой час у Друі. Гэта і ксяндзы Антоні Ляшчэвіч і Юры Кашыра, якія добраахвотна пайшлі на мучаніцкую смерць разам са сваімі вернікамі, і ксёндз Люцыян Паўлік, каторы патаемна служыў тут у 50-х гадах XX стагоддзя пасля адбыцця тэрміну ў сталінскіх лагерах.

Узгадаў іерарх і блаславёнага Юрыя Матулевіча, заснавальніка ордэна сясцёр-эўхарыстак. Прадстаўнікі гэтай манаскай супольнасці зараз нясуць службу ў Друі. Сёлета, калі спаўняецца 90 гадоў з дня смерці біскупа Матулевіча, распачаты працэс яго кананізацыі.

“Сёння ўжо не бураць касцёлы, – адзначыў іерарх, – але існуе іншая небяспека, калі чалавек сябе самога лічыць ідалам”. Маўляў, я сам усё магу зрабіць, і Бог у маім жыцці ўжо непатрэбны. Але гісторыя вучыць нас, што гэта не так. І толькі з Богам мы можам дасягнуць шчасця і жыцця вечнага”.

Пасля Імшы біскуп сустрэўся з парафіянамі і прадстаўнікі парафіяльнай рады.

### Толькі з верай чалавек можа быць па-сапраўднаму шчаслівым

Далей шлях біскупа ляжаў у Друйск, дзе вернікі яго сустрэлі ў капліцы святога Юзафа. Перад пачаткам Імшы яны распавялі біскупу пра жыццё ў парафіі і паказалі фотаздымкі.

Капліца святога Юзафа з'явілася ў Друйску адносна нядаўна, яна перароблeная са звычайнай вясковай хаты. З гэтай нагоды біскуп узгадаў, што раней храмы перараблялі пад склады, клубы, жылыя дамы, а зараз ідзе адваротны працэс.

Перад пачаткам Імшы ардынарый асвяціў абраз святога Юзафа, які стварыла мінская мастачка Тацццяна Уласевіч і падарыла мясцовай парафіі. І хаця ў капліцы было даволі цесна ад таго, што шмат народу сабралася на святую Імшу з удзелам біскупа, але тут было вельмі цёпла. Прычым не толькі цёпла ў самім памяшканні, але цяпло зыходзіла таксама і ад людскіх сэрцаў.

Таму і сваё казанне біскуп пабудаваў у форме дыялогу з вернікамі. І хаця яно працягвалася больш за сорак хвілін, нікога гэта не стаміла. Ардынарый звярнуў увагу вернікаў на сэнс жыцця, растлумачыў, з якой мэтай Бог стварыў чалавека.

Матэрыялісты сцвярджаюць, што свет узнік з вялікага выбуху, а потым усё ўзнікла ў выніку выпадковасцяў і эвалюцыі. Але гэта не так. У якасці прыкладу біскуп зняў з рукі свой гадзіннік, паказаў яго вернікам і сказаў: “Калі я разбяру яго на часткі, кіну іх у слоік і буду трэсці, то колькі часу спатрэбіцца, каб у выніку выпадковасцяў увесь механізм зноў быў сабраны? Для таго, каб сабраць такі механізм, патрэбны разумны майстра. Так і ў стварэнні Сусвету павінна быць напачатку нечая разумная воля”.

Біскуп Алег заўважыў, што толькі вера дае чалавеку стрыжань у жыцці. А вялікі ўзровень алкагалізму, наркаманіі, узрастанне выпадкаў самагубстваў якраз і сведчыць пра недахоп веры. Таму толькі з верай чалавек можа быць па-сапраўднаму шчаслівым.

### Гістарычны дзень для дзеткаўскай святыні

Пасля абеду, які прыгатавалі вернікі ў Друйску, шлях біскупа ляжаў у Дзеткаўцы. Тут у 90-я гады мінулага стагоддзя на могілках паўстала капліца Маці Божай Вастрабрамскай. І хоць яна з'яўляецца самай аддаленай у Друйскай парафіі, кожную нядзелю тут збіраюцца вернікі на малітву.

Візіт біскупа стаў гістарычным для святыні, бо ўпершыню ў яе завітаў ардынарый дыяцэзіі. Біскуп памаліўся разам з вернікамі за памерлых, распытаў іх пра жыццё.

### Касцёл у чыстым полі

З Дзеткаўцаў біскуп Алег разам з ксяндзом Сяргеем накіраваліся ў в. Малькі. Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла і святой Агаты быў пабудаваны коштам уладальніка фальварка ў Малькаўшчызне Яна Шаўмана ў 1792 годзе. Будынак драўляны, узведзены ў класічным стылі. Зараз ён стаіць у полі, сярод вёсак і хутароў, навокал яго няма ніводнага будынка. Некалі запоўнены людзьмі, зараз ён пустуе. Толькі некалькі разоў на год тут адпраўляецца святая Імша.

У святыні захаваўся алтар канца 18 ст., выкананы ў тэхніцы ілюзіяністычнага жывапісу: малюнкі ствараюць уражанне мармуровых альбо ляпных барэльефаў. Мясцовыя памятаюць, як блаславёны айцец Юры Кашыра рыхтаваў тут дзяцей да Першай святой споведзі, як прамаўляліся тут казанні па-беларуску.

На жаль, святыня таксама зведала шмат драматычных старонак. Пасля вайны яна была забраная ад вернікаў і перароблeная на склад. У 90-х гадах аднаўленая, але зараз тут амаль не засталося вернікаў. Сустрэлі біскупа ў храме толькі дзве жанчыны-пенсіянеркі. Але ў іх вачах было шмат радасці ад таго, што кіраўнік дыяцэзіі наведаў іх святыню, якая праз дрэнны дах зараз ужо разбураецца. Таму задача каталіцкай супольнасці агульнымі намаганнямі выратаваць унікальны храм ад разбурэння.

### Зноў у Друю

Завяршылася візітацыя на могілках у Друі. Год таму тут паўстала капліца Міхала Арханёла. Узведзеная яна на месцы знішчанай у гады савецкай улады каталіцкай святыні. Кожную першую суботу месяца збіраюцца тут вернікі на малітву. Вось і цяпер, каб памаліцца разам са сваім пастырам, сюды прыйшло каля паўтара дзясятка чалавек.

Завяршыўся візіт біскупа ўжо пасля заходу сонца. Больш за трыццаць кіламетраў праехалі па Друйскай парафіі. Хочацца верыць, што візіт кіраўніка дыяцэзіі стане штуршком для далейшага развіцця парафіі і ўмацавання веры на старажытнай друйскай зямлі.



Вернікі з в. Дзеткаўцы вітаюць біскупа Алега

Каталіцкі ВЕСНІК
№2(71)
люты 2017 г.

# Пілігрымка пані Караліны

**Гэта артыкул з “Кур’ера Віленскага” (№ 101 ад 14 красавіка 1937 года) знайшоў краязнаўца Кастусь Шыталь. Уладзімір Берняковіч піша пра Караліну Янковіч з вёскі Вішнёўцы Ваўкалацкай парафіі, якая ўваходзіла тады ў склад Пастаўскага павета. У красавіку трыццаць сёмага гэта жанчына ў восьмы раз збіралася ў пешую пілігрымку ў Чанстахову. Што яе прымушала туды ісці? Чытайце ў артыкуле Уладзіміра Берняковіча.**

## 72-гадовая Караліна з Пастаўскага павета кожны год пешшу ходзіць у Чанстахову

**72-letnia staruszka Karolina z postawskiego pow. coroku pieszo chodzi do Częstochowy**

Są w życiu każdego człowieka radości i smutki, ciche dramaty i głośne tragedie. Ale nie każdy o tym chce i umie powiedzieć innym.

У жыцці кожнага чалавека здараюцца радасці і засмучэнні, ціхія драмы і гучныя трагедыі. Але не кожны пра гэта хоча і ўмее распавесці іншым людзям.

Бедная старая Караліна Янковіч з вёскі Вішнёўцы Пастаўскага павета 72 гады не мела каму давярыцца і распавесці пра свае болі і крыўды, пра свае няшчасці. Хто б там цікавіўся байкамі нейкай вясковай бабкі, каго цікавіць яе лёс? Ужо восьмы раз выбіраецца яна ў далёкае падарожжа – у пілігрымку да цудадзейнага абраза Маці Божай Чанстахоўскай, каб там аблегчыць душу і выплакацца.

Што яе туды кліча? За якія такія цяжкія грахі дала яна такую пастанову?

Хтосьці можа падумаць, што яна вялікая грэшніца або цалкам істэрычная старая дзева. Прызнаюся, што сам спачатку так падумаў. Аднак калі я спаткаўся з гэтай жанчынай і даведаўся прычыну яе пілігрымак, то змяніў сваё меркаванне.

### На шырокіх прасторах Расіі

Была некалі і яна маладой дзяўчынай, і жыццё яе складвалася шчасліва. Марыла пра блізкую родную душу і ціхае сямейнае гняздо, ды раптам паміраюць яе бацькі. Аднак яна мае шэсць гектараў зямлі, ёсць уласны кут.

Было гэта даўно, вельмі даўно, можа, з паўстагоддзя таму. Не ведалі людзі тады крызісу і беспрацоўя, але адчувалі і ў той час важнасць працы, каб зарабіць кусок хлеба і аблегчыць сіроцкую долю.

Знайшліся добрыя людзі, якія прапанавалі панне Караліне службу. Так што зямлю і хату аддала яна пад апеку суседзяў і паехала ў свет: у Варшаву, у Чанстахову, потым у Маскву, Крым, Адэсу. Распачалася вандроўка па свеце: ад горада да горада, ад вёскі да вёскі па бяскрайніх прасторах Расіі. Час ад часу наведвалася і ў сваю вёску, каб зірнуць на тыя камяні і межы, да якіх бегала яшчэ дзіцём.

Але ўжо праз некаторы час “добрыя” суседзі разабралі яе хатку на бярвенні. Гэтае месца было дарагое сэрцу Каралінкі, бо яна жадала тут памерці, злажыць свае косці побач з бацькоўскімі магіламі.

Ішоў час. Прайшла маладосць, Караліна стала ўжо дарослай жанчынай, і зорка яе жыцця пачала рухацца на захад. Аднак яна дужа не перажывала. За доўгія гады цяжкай службы сабрала неблагія грошы і смела глядзела ў будучыню.

### Вайна і рэвалюцыя

Вайна і потым рэвалюцыя засталі яе ў Маскве. Знікаюць усе яе грошы, а родная вёска апынулася за мяжой. Распачынаецца перыяд цяжкіх змаганняў за кавалак хлеба. Моладзь і тая яго не можа дастаць, а хто там падумае пра адзінокую, ужо ў сталым веку жанчыну... Адзіную падтрымку яе душы, малітву і касцёл, бальшавікі таксама адабралі. Адчувала сябе чужой сярод чужых. А тут чуе ад падобных таварышаў па няшчасці, што Польшча вольная, што ў Польшчы можна свабодна маліцца і можна мець кавалак хлеба.

Яна ходзіць і ўсюды просіць, каб вярнуцца ў Польшчу, бо яна павінна яшчэ раз перад смерцю ўбачыць сваю родную вёску, памаліцца ў сваім касцёле ў Ваўкалаце і ад удзячных суседзяў, якія карыстаюцца яе зямлёй, атрымаць кавалак хлеба на старасць. Але яе толькі абзываюць “ляшкай”, зневажаюць, б’юць і мораць голадам, ніхто нават не жадае выслухаць яе просьбы.

І вось аднойчы з кіем у руцэ, у голадзе і холадзе пайшла яна на сваю Радзіму, перад гэтым паабяцаўшы Маці Божай, Каралеве Польшчы: “Калі вярнуся ў Польшчу, кожны год буду прыходзіць да тваіх ног, Маці!

Спагадлівыя людзі падказалі ёй, дзе лепш прайсці праз мяжу, а Маці Божая дапамагла пасля дзесяцігадовай бальшавіцкай няволі зноў вярнуцца ў сваю родную вёску.

Вярнулася яна ледзь жывая, а суседзі без сумлення і сэрца, якія карысталіся яе зямлёй, не далі ёй нават кавалак хлеба. Проста не прызналі яе як уласніцу бацькоўскай зямлі. Два браты Ястрабы, Сымон і Юры, падзялілі паміж сабой Караліну зямлю пасля выйгранага суда.

Прытуліў старую іншы літасцівы сусед, а людзі дзяліліся цяпер з ёй кавалкам хлеба. Але старая шчаслівая, бо мае тое, што ў яе ёсць, і што можа падзякаваць Маці Божай, Каторая цудам вярнула яе ў лона Айчыны. Кожны год з жабрачым кіем ідзе яна пешшу каля сарака дзён у Чанстахову і потым вяртаецца назад.

***Уладзімір Берняковіч, пераклад з польскай Змітра Лупача***

*Прайшло ўжо восемдзесят гадоў. Можа, яшчэ жывуць людзі ў Вішнёўцах або ў суседніх вёсках, якія памятаюць Караліну Янковіч? Цікава, як склаўся яе далейшы лёс? Бо ў трыццаць дзевятым на нашы землі прыйшлі бальшавікі, ад якіх Караліне ўдалося ўцячы напрыканцы дваццатых гадоў. Калі хто з чытачоў штосьці ведае пра гэту жанчыну, пішыце нам у “Каталіцкі Веснік”, а мы абавязкова пазнаёмім з гэтым усіх чытачоў газеты.*



# Жыццёвыя гісторыі

*“Я думаю, што парушэнне парадку і разлад у сучасным свеце – гэта вынік таго, што ў нашых дамах і ў сямейным жыцці вельмі мала любові”*

*Святая Маці Тэрэза*

## Балючая крыўда

Удзень была адліга. Вечарам пацісну марозік. І вуліцы, і двары ператварыліся ў каток. Але ж жыццё не спынілася.

Пасля вячэры мая знаёмая панесла есці сабаку. Ледзь ступіла на ганак, як паслізнулася і моцна ўдарылася галавой і спінай аб прыступкі. З вачэй, як кажуць, іскры пасыпаліся. Мільганула думка: “Мусіць хрыбет пераламала”. Боль быў моцны, падняцца на ногі жанчына не магла. Так і ляжала на ганку хвілін 10-15, якія ёй здаліся вельмі доўгімі.

На дварэ нікога не было. Душылі слёзы ад бяссілля. Нарэшце яна ўстала і з плачам зайшла ў хату. На плач выглянула са свайго пакоя дачка-старшакласніца. Калі маці запытала, чаму не пайшла яе шукаць, дзяўчына адказала: “Я сяджу за камп'ютарам і нават не чула, як ты выходзіла з хаты”. Адарваўся ад тэлевізара муж, буркнуў: “А хто цябе ведае, дзе ты поўзаеш. І наогул, сама вінаватая, не ўмееш асцярожна хадзіць”.

Той вечар і тая ноч здаліся жанчыне бясконцымі. Балела патыліца, ад пякучага болю ў спіне не магла ўлегчыся. Але плакала не столькі ад болю, але ад жалю да сябе, бо адчувала сябе пакінутай, не патрэбнай самым родным.

Раніцай калегі прымусілі яе звярнуцца да ўрача. Цяпер паламанае рабро ўжо зраслося. Гематома на галаве загаілася. А вось крыўда яшчэ сядзіць у сэрцы балючай стрэмкай.

## Сляпая рэўнасць

Гэту кабету часта бачу ў нядзелю ў касцёле, а таксама на аўтастанцыі. Аднойчы ў чаканні аўтобусаў разгаварыліся. Жанчына жыве ў вёсцы адна, муж памёр. Сын з сям'ёй жыве ў суседняй вёсцы, кліча маці да сябе, але яна пакуль не згаджаецца на пераезд, хоча быць самастойнай. Усё нібы звычайна. Але адчуваю, што нешта кабету прыгнятае.

Пасля паўзы яна працягвае: “У мяне ж яшчэ ёсць і дачка, але яна мяне ведаць не хоча”. Пытаюся: “А што здарылася? У чым прычына?” Жанчына хістае галавой і кажа: “Не ведаю, не магу зразумець. Дачка развялася з мужам-п'яніцам і з'ехала ў суседнюю краіну, там уладкавалася на працу. На мае званкі не адказвала, адключала мабільнік, а потым змяніла нумар. З братам таксама не хоча размаўляць. Зрэдку звязваецца праз інтэрнэт са сваячкай, расказвае пра сваё жыццё.

Я думаю, што раўнуе мяне да сына, лічыць, што яму дапамагаю больш, што больш яго люблю. А я ж з самага маленства ім усё пароўну дзяліла. Я ж іх аднолькава люблю. І сэрца маё аднолькава баліць за іх”.

Жанчына замоўкла, задумалася. А я проста сядзела побач і ў думках малілася за яе і ейных дзяцей.

***Алена Пажога***

## Мадрыдскі «Рэал» прыбраў крыж з эмблемы для рэалізацыі сваёй прадукцыі на Блізкім Усходзе



**Кампанія Marka, якая базуецца ў ААЭ, набыла правы на вытворчасць і продаж прадукцыі з сімволікай «Рэала» ў краінах Блізкага Усходу: ААЭ, Саудаўскай Аравіі, Катары, Кувейце, Бахрэйне і Амане.**

Згодна з умовамі пагаднення, знакаміты іспанскі футбольны клуб «Рэал» па рэлігійных прычынах пагадзіўся на тое, каб прыбраць крыж з кароны, намаляванай на эмблеме. Цана пытання – адзін маленькі крыжык, які знікне з усіх лагатыпаў клуба на Блізкім Усходзе.

Пра тое, што крыж знікне з клубнага герба на ўсёй тэрыторыі Аравійскага паўвострава, стала вядома яшчэ ў 2012 годзе – адпаведны кантракт быў падпісаны ў пачатку будаўніцтва ў ААЭ Real Madrid Resort Island, грандыёзнага комплексу, які складаецца з вялізнага стадыёна і шыкоўных гатэляў. Знакаміты футбольны клуб прыбраў крыж з афіцыйнага герба, каб не пакрыўдзіць мусульман і выканаць умовы кантракта з Нацыянальным банкам Абу-Дабі.

Малюнак каралеўскай кароны, увянчанай малюсенькім крыжам, з’явіўся на гербе каманды ў 1920 годзе з адабрэння караля Іспаніі Альфонса XIII (1886-1941) у гонар перайменавання клуба з «Madrid Club de Futbol» у «Рэал Мадрыд». Кароны не было на іх гербе з 1931 па 1941 год, але пасля грамадзянскай вайны ў Іспаніі яна зноў з’явілася і з тых часоў пастаянна захоўвалася на ім.

Папярэдняя эмблема клуба – з каронай, увянчанай крыжам, пакуль па-ранейшаму будзе выкарыстоўвацца ў Еўропе.

*Па матэрыялах tut.by і pravoslavie.ru*

# Нататкі місіянера. Перу



Парафіяне

*Працяг. Пачатак у №12 (69) і №1(70)*

**У нядзелю ксяндзы ў Перу маюць шмат працы: патрэбна правесці чатыры Імшы. Адну – у Хуанкабамбе і тры – па вёсках. Праца ксяндзоў пачынаецца а 7.30.**

Пра сваё штодзённае жыццё ў перуанскай парафіі Хуанкабамба расказвае ксёндз Ежы Майка: "Аднойчы, я накіраваўся на старым ровары ў вёску Латурахі, якая знаходзілася за 6 км ад Хуанкабамбы. У Латурахі Імша адпраўляецца толькі адзін раз на месяц. Па дарозе да вёскі я не мог не звярнуць увагу на маляўнічыя краявіды, якія сустракаліся на маім шляху. Такая прыгажосць, што не апісаць словамі! Тут хочацца застацца і гадзінамі глядзець на шэдэўры, якія стварыла прырода. Больш за ўсё здзіўляюць горы, бо яны кожны дзень змяняюцца.

Ёсць у Перу дзіўны звычай – паліць траву на гарах. Не было ніводнага дня, каб у паветры я не чуў дыму. Пажары гэтыя ніхто не тушыць, яны самі затухаюць праз нейкі час. І тады такія горы выглядаюць вельмі дзіўна: з аднаго боку, зялёныя, а з другога – чорныя, спаленыя. А горныя рэкі, якое гэта відовішча! Колькі ў іх энергіі, яны нібы натхняюць чалавека сваёю магутнасцю да жыцця!

Перад уездам у сяло Лантурахі ёсць развілка. Я вырашыў павярнуць у левы бок, бо ніколі яшчэ не ехаў той дарогай. Наперадзе ўбачыў узвышша, падобнае да дыназаўра, што паклаў галаву на свае лапы. Перада мной з'явілася нейкая агароджа з калючага дроту, быццам плот. Мільганула думка: "Раз плот, значыць, гэта нечая ўласнасць! А можа тут сабакі?" Раптоўна ўспомніў, як адзін перуанец апавядаў пра падрэ Яна, на каторага нечакана напалі сабакі. І шчасце, што яны ўхапіліся зубамі за стулу (доўгая стужка з тканіны, якая носіцца вакол шыі святара) і пачалі яе рваць. А бедны ксёндз Ян, скарыстаўшыся гэтым, ледзь жывы здолеў уцячы".

Ксяндзу Ежы першы раз у жыцці давялося ўдзельнічаць у свяце Сэнор дэ Лос Мілаграс (што ў перакладзе – Пан Цудаў, або Хрыстус Цудатворца). Гэта найважнейшае ў Перу свята, якое можна параўнаць з Божым Нараджэннем і Вялікаднем.

Гісторыя гэтага свята наступная. Яшчэ ў XVI ст. неграб намаляваў на сцяне будынка, у якім яго трымалі разам з іншымі нявольнікамі, абраз Езуса Укрыжаванага. Рабы пачалі перад абразом маліцца. Магчыма, ніхто і не звярнуў бы ўвагу на тое, каб не людзі, якіх прыходзіла штораз больш.

Дзіўна было, што намаляваны абраз збіргогся праз шмат гадоў. Святары з Лімы былі супраць таго, што людзі пакланяюцца нейкаму негрыцянскаму святому, а не ходзяць у касцёл. Тады яны загадалі зафарбаваць той абраз, але праз нейкі час з-пад фарбы стаў праяўляцца вобраз Хрыста Укрыжаванага. У той час у Перу былі страшэнныя землятрусы, якія вытрымала старая сцяна з вобразам Хрыста. Гэта прывяло да таго, што біскуп змяніў свае погляды, і з тае пары абраз ушаноўваецца касцёлам.

Ксёндз Ежы ўспамінае: " Зараз тут вельмі распаўсюджаны працэсіі з абразамі, якія нясуць на спецыяльнай платформе –"андзе". Кожная парафія стараецца мець найбольшы абраз і найбольшую "анду". Праблема ў тым, хто гэта будзе несці? У працэсіі ўдзельнічаюць у асноўным жанчыны, а мужчыны перастаюць прыходзіць на Імшу. У вялікіх парафіях такія праблемы не ўзнікаюць. У Ліме, напрыклад, 28 кастрычніка прымае ўдзел у працэсіі каля 2 мільёнаў чалавек – гэта самая вялікая працэсія на свеце. Другім элементам святкавання з'яўляюцца дываны "альфомбры", якія насыпаюцца з зямлі, пяску, зерня, мукі і іншых рэчаў. Такім чынам, ствараецца якінебудзь абраз".

У Лантурахі ксёндз Ежы праводзіў Імшу ў школе, пасля якой было пасвячэнне альфомбраў і малітва за іх стваральнікаў. Дываны-альфомбры размясцілі на школьным двары, а іх аўтарамі з'яўляюцца восем вучняў.

Працягвае свае ўспаміны ксёндз Ежы: "У першую пятніцу кожнага месяца ксяндзы наведваюць з камуніяй хворых. Я таксама наведаў такого "хворага" і вельмі здзівіўся, калі ўбачыў, што нямоглы чалавек працуе на агародзе і зусім не падобны да хворага. Яго часовы дом, які быў пабудаваны з гліны, мог прастаяць толькі да першых ліўняў.

У другой хаце, каторую я таксама наведаў, жыла сямейная пара. Людзям было па 60 гадоў. Мужчына, як расказала яго жонка, з'яўляецца "сябрам усіх ксяндзоў", але яго да касцёла патрэбна выганяць з дому. Гэтыя людзі маюць іспанскае прозвішча Убеда, але, напэўна, яны нашчадкі нямецкіх каланізатараў, пра што гаворыць вонкавы выгляд мужчыны: ён худы, высокі, з прамым носам, калісьці быў бландынам. Гаспадар паказаў мне старыя фотаздымкі сваіх сваякоў 1930-х гадоў: яны ўсе на конях, у шаломах з коркавага дрэва, са стрэльбамі за плячыма, як перад выездам на сафары. Сеньёр пачаў мне апавядаць пра ксяндза падрэ Лухіа, што наведваў некалі іх вёску і ўваліўся на сваім матацыкле ў раку, вельмі прамок і трапіў да іх у краму, каб пагрэцца. Але не было ў нашай краме ні печкі, ні чайніка, толькі "вогненная вада". Падрэ Лухіа, пачаставаўшыся "вогненнай вадой", сеў на матацыкл і паехаў, нават пасля не памятаў, як трапіў дадому.



Гліняныя хаткі перуанцаў

Пасля наведвання гаспадароў Убеда мне было патрэбна ўжо вяртацца ў Хуанкабамба. На вуліцы сцямнела. Я, прайшоўны некалькі кіламетраў, заўважыў, што з кустоў на мяне глядзяць вялікія вочы нейкага драпежніка і свецяцца, як у дарослага ката. Рысь, тыгр, кот, кракадзіл? Ад страху я забыўся, якія жывёлы водзяцца ў тропіках. Не памятаў нават, як прабег з 18 кіламетраў і апынуўся на плябаніі. Добра, што законныя сёстры яшчэ не зачынілі брамы, а то начаваў бы я з роварам на вуліцы"...

*Працяг будзе*

*Падрыхтавала*
***Наталля Мізярска**, Ушачы*



Абвал дарогі ў гарах

# Праз стагоддзе збываюцца мары

**Мой дзядуля Антоні Міцкевіч нарадзіўся ў 1890-м годзе ў вёсцы Мушыклі, якой цяпер ужо няма на карце Браслаўскага раёна. Ён быў вельмі пабожны і марыў у суседняй вёсцы Матэйкяны (якой таксама ўжо няма) пабудаваць касцёл.**

■ **Тэрэса Крумплеўская**, *Опса*

Атрымаўшы дазвол ад улады, нарыхтавалі лес для будоўлі. Але... Другая сусветная вайна перакрэсліла планы. Потым наш край запаланіў атэізм. Але Бог жыў і жыве ў нашых сэрцах. І вось амаль праз стагоддзе сталі здзяйсняцца мары нашых продкаў. Хоць ужо няма вёсак, дзе яны жылі, святыні будуюцца ў нашым краі.

Памятаю, як пасля доўгіх гадоў атэістычнай цемры ў Опсу прыехаў малады святар Кшыштаф Мянкіна. Ён вярнуў з нябыту жыццё парафіі, аднавіў касцёл Яна Хрысціцеля і стаў будаваць святыню ў Пагошчы. Пачынаў будоўлю з нуля. Парафіяне капалі катлаван, закладвалі падмурак, узводзілі з цэглы сцены, спецыялісты ладзілі дах...



Ксёндз Кшыштаф, як сапраўдны архітэктар, клапаціўся пра ўсё: знаходзіў майстроў, фундатараў, сам працаваў на будоўлі. Дзякуючы яго намаганням у 1999-м годзе быў пабудаваны прыгожы касцёл.

Цяпер радуецца душа, калі ў святыні адпраўляюцца набажэнствы, ёсць таленавіты святар Славамір Самковіч. Касцёл у Пагошчы носіць імя Езуса Міласэрнага. Гэта вельмі сімвалічна, што пасля атэістычнай пустэчы Езус Міласэрны адкрыў для нас свае абдымкі. У касцёле шмат дзяцей і моладзі, якія даяраюць Езусу свае сэрцы. А гэта значыць, Бог будзе заўсёды з намі!

*Шчыра дзякуем ксяндзу Кшыштафу за гэты касцёл. 22 лютага святар адзначае дзень нараджэння. Жадаем яму і на мёрскай зямлі плённай працы, натхнення Духа Святога, апекі Маці Божай і Анёла Ахоўніка. Няхай званы ў пагашчанскім касцёле гучаць яму гімнам абуджанай да святасці нашай зямлі!*

# У Шаркаўшчыне прайшла біскупская візітацыя



**Кіраўнік Віцебскай дыяцэзіі біскуп Алег Буткевіч наведаў мястэчка ў нядзелю, 12 лютага. Па традыцыі іерарха сустрэлі перад уваходам у храм. Святая Імша распачалася а палове на адзінаццатую. Трэба адзначыць, што святыня была цалкам запоўненая вернікамі. Заўважым адну з шаркаўшчынскіх асаблівасцяў: у храме было шмат мужчын і маладых людзей.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

У прывітальным слове пробашч ксёндз Кшыштаф Сілкоўскі сказаў, што ў мінулым годзе парафія перажыла двайную радасць: споўнілася дваццаць гадоў ад пачатку будаўніцтва новага касцёла, і якраз у мінулым годзе ўдалося адшукаць дванаццатую стацыю Крыжовага шляху са страчанага касцёла. Пробашч прыгадаў, што за гэтыя гады з парафіі ў Шаркаўшчыне выйшлі тры ксяндзы, адзін айцец-сэрцанін, законная сястра і зараз у семінарыі навучаецца адзін клерык.

У прывітальным слове біскуп падкрэсліў поспехі парафіі і заклікаў не спыняцца на дасягнутым, бо ў наш час застаецца вельмі актуальнай праблема пакліканняў. Іерарх адзначыў, што яму прыемна прыязджаць у Шаркаўшчыну, бо ён лічыць сябе земляком, паколькі паходзіць з суседняй Браслаўскай парафіі.

У сваім слове да вернікаў біскуп звярнуў увагу на урывак з Евангелля, які чытаўся ў гэты дзень – частку Нагорнага казання Езуса Хрыста. Прайшло ўжо больш за два тысячагоддзі, як яно была прамоўлена, але тыя праблемы, што ў ім узнімаюцца, актуальныя і сёння. Гэта такія пытанні, як забіць – не забіць, чужаложыць ці не. Прычым, адзначыў іерарх, забіць чалавека можна не толькі фізічна, але і словам. “Язык, – падкрэсліў біскуп Алег, – адна з самых малых частак цела, але яго значэнне вельмі важнае”.

Ардынарый закрануў і праблему сямейных адносін, адзначыўшы, што сям’я – гэта таксама пакліканне, як і пакліканне да святарскага ці манаскага жыцця. І трэба ставіцца да такога паклікання з усёй сур’ёзнасцю. З гэтай нагоды біскуп звярнуў увагу на вялікую ролю жанчыны, на якой ляжыць адказнасць за сям’ю.

Пасля вызнання веры адбылася працэсія з дарамі. Іерарху паднеслі свечку – як сімвал Божага святла, кветкі – як знак прыгажосці Божага тварэння, малітоўнік і ружанец, а таксама хлеб і віно.

Напрыканцы Імшы адбылася прысяга новай супольнасці маргарытак. Маргарыткі – гэта супольнасць вернікаў, якія даюць слова да канца свайго жыцця маліцца ў інтэнцыі таго ці іншага святара. На гэты раз утварылася малітоўнае кола, якое паабяцала маліцца ў інтэнцыі біскупа Алега. У такую супольнасць увайшло сем верніц, каторыя прынеслі сваю прысягу перад алтаром. Іерарх адзначыў, што ні ў адной парафіі не бачыў такога букету маргарытак, бо ў Шаркаўшчынскай парафіі гэта была ўжо дванаццатая маргарытка.

Пасля Імшы моладзь паказала невялікую канцэртную праграму. Потым біскуп сустрэўся з дзецьмі ў катэхетычным класе. Пасля абеду кіраўнік дыяцэзіі наведаў закрытую ўстанову ў Александрове, дзе знаходзяцца псіхічна хворыя людзі. Адметна, што частка будынкаў гэтай установы зроблена з бярвення ад старога драўлянага касцёла.





## ТЭСТ. Што Вы ведаеце

**Адзенне духоўных асоб значна адрозніваецца ад адзення свецкіх вернікаў. У новым тэсце “Каталіцкага Весніка” праверце, што Вы ведаеце пра ўбранне святароў і біскупаў?**

1. На гэтым фотаздымку – верхняя вопратка святара. У Папы Рымскага яна заўсёды белая, у ксяндза – чорная.



А. Сукенка
Б. Сутана
В. Комжа

2. Белы каўнерык у каталіцкага святара:



А. Каларатка
Б. Альба
В. Інфула

3. Адзенне, якое носяць каталіцкія манахі і манахіні называецца:



А. Габіт
Б. Мантыя
В. Сутана

4. На гэтым фота – дэталь аблачэння міністранта, што надзяваецца на комжу. Бывае розных колераў, у залежнасці ад набажэнства і свята.



А. Альба
Б. Палярынка
В. Каптур

5. Як называецца доўгая вузкая стужка, каторую святар ускладае на шыю для цэлебрацыі святой Імшы або для здзяйснення іншых сакрамантаў? Звычайна гэтую стужку вернікі цалуюць пасля споведзі.



# Мёрскую парафію з пастырскай візітацыяй наведаў біскуп Алег Буткевіч



**Гэта адбылося ў нядзелю 5 лютага. Вернікі разам са святарамі і міністрантамі сустрэлі ардынарыя перад святыняй. Пасля ўрачыстага ўваходу ў касцёл біскупа прывіталі дзеці і моладзь парафіі, якія ўручылі кветкі свайму пастыру.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

У прывітальным слове біскуп адзначыў, што гэта яго не першы візіт у мёрскую парафію, але сёння ён асаблівы, бо наведвае яе з біскупскай візітацыяй як кіраўнік дыяцэзіі. Біскуп Алег адзначыў, што заўсёды з хваляваннем прыязджае сюды, бо менавіта ў Мёрах ён рабіў свае першыя крокі ў святарстве.

“Заўсёды, дзе ёсць нейкі пачатак у чалавека, узнікае паняцце дому. Бо чалавеку заўжды прыемна вярнуцца туды, дзе рабіў свае першыя крокі, дзе вучыўся служэнню”, – адзначыў іерарх.

Пробашч парафіі ксёндз Кшыштаф Мянкіна з гэтай нагоды заўважыў: “Мы вельмі радыя, што біскуп тут пачынаў, і ён вельмі часта гэта падкрэслівае. А таксама мы ганарымся, што з нашай парафіі паходзіць шмат святароў. Ужо дванаццаць святароў выйшла з мёрскай парафіі ад 1989 года, маем зараз двух клерыкаў: адзін на пятым курсе, другі толькі сёлета ўступіў у ордэн салезіянаў”.

Мёрскія вернікі памятаюць, як сюды прыйшоў працаваць тады яшчэ зусім малады ксёндз Алег і вельмі ганарацца гэтым. “Мы заўсёды гэта памятаем, – кажа катэхетка парафіі Ганна Вайсковіч. – Памятаем, як ён дапамагаў нам рабіць рамонт. У нас быў у плябаніі на другім паверсе клас, мы там клеілі шпалерамі сцены, ён таксама нам дапамагаў. Таму калі да нас прыязджае біскуп, то мы адчуваем, што прыехаў свой чалавек”.

“Такі прыйшоў малады, светлы ксёндз, які, як і зараз, кожнаму ўсміхаецца, рады бачыць любога ў касцёле: і малога, і вялікага, і хворага, і задаволенага, і пакрыўджанага… Ён кожнага абдыме, кожнага прытуліць і абрадуе”, – успамінае Міхаіл Чарняўскі.

На пачатку Імшы вернікі памаліліся да Маці Божай, потым біскуп акрапіў усіх святой вадой як напамін пра тое, што ўсе мы ў свой час атрымалі сакрамант хросту.

Сваё слова да вернікаў іерарх пачаў з разважання над словамі Хрыста, скіраванымі да апосталаў: “Вы – соль зямлі, вы – святло свету”. Гэтыя словы павінны стаць і праграмай нашага жыцця, адзначыў біскуп. “Трэба ўмець адлюстроўваць тое святло, якое зыходзіць ад Бога. Езус чакае ад нас святла ў нашым штодзённым жыцці. Нам важна заўважаць побач з сабой іншага чалавека. Бо вельмі важна любіць Бога не абстрактна, як нешта нябачнае, а заўважаць Яго ў сваім бліжнім. І калі трэба, мы павінны дапамагчы тым, хто яшчэ блукае ў цемры, знайсці святло веры”.

Біскуп нагадаў пра адказнасць кожнага верніка перад касцёлам. “У кожнага з нас свая адказнасць, – адзначыў ардынарый, – у біскупа свая, у пробашча свая, у сясцёр законных свая. І простыя вернікі таксама павінны адчуваць адказнасць за свая святыню, за сваю супольнасць. Мы ўжо перажылі час, калі руйнаваліся храмы, але, на жаль, і зараз працягваецца час, калі руйнуецца сэрца чалавека”.

У перыяд ваяўнічага атэізму нам таксама казалі пра чалавечыя каштоўнасці: пра свабоду, братэрства, мір. Але без Бога, Які ёсць асновай усяго, гэтыя каштоўнасці так і не занялі належнага месца ў жыцці. Яны былі нейкімі абстрактнымі паняццямі. “Бо лягчэй было любіць негра ў Афрыцы, чым чалавека, які побач з табой,” – адзначыў біскуп.

Дух Святы ўмацаваў апосталаў у дзень Пяцідзесятніцы, і нас таксама ён павінен умацоўваць падчас канфірмацыі. Трэба толькі адкрыць свае сэрца для Святога Духа: “Бежмаванне адзначае тое, што грунтуе чалавека ў веры, робіць яго здольным да яе абароны. І што вельмі важна, сам перыяд падрыхтоўкі ўмацоўвае чалавека ў веры, яднае яго з Богам праз Святога Духа”.

Перад прыняццем сакраманту бежмавання кандыдаты разам з іншымі вернікамі вызналі сваю веру. Потым распачалося ўдзяленне біскупам сакраманту хрысціянскай сталасці. Трэба адзначыць, што ў гэты дзень у Мёрскай парафіі прынялі сакрамант больш за паўсотню вернікаў. Гэта былі людзі ад чатырнаццаці да васьмідзесяці трох гадоў.

Напрыканцы Імшы біскуп асвяціў хлеб і ваду ў гонар святой Агаты, паколькі ў гэты дзень Каталіцкі Касцёл ушаноўвае памяць пра святую.

На заканчэнне моладзь парафіі падзякавала біскупу за ўдзелены сакрамант. “Мы зрабілі крок бліжэй да Бога, я вельмі радая, што мы атрымалі дары Духа Святога, а таксама вельмі радая прыезду да нас біскупа”, – сказала для “Каталіцкага Весніка” Ксенія Жук.

Бацькі кандыдатаў выказалі падзяку пробашчу касцёла ксяндзу Кшыштафу за дапамогу ў падрыхтоўцы да гэтай падзеі. Падзяку атрымала і катэхетка парафіі Ганна Вайсковіч. Яна адзначыла, што для вернікаў гэта была вельмі важная падзея: “Па-рознаму людзі перажывалі падрыхтоўку да прыняцця сакраманту. Моладзь па-свойму, дарослыя па-свойму. Сёння перад святой Імшой падышла да мяне жанчына, ужо ва ўзросце, і кажа, што не спала ўсю ноч, бо жыла без гэтага сакраманту і думала, што ў мяне ўсё ў парадку. А тут я зразумела, што сёння толькі прыму ўсе сакраманты і ад хвалявання не магла заснуць усю ноч”.

А пробашч касцёла заўважыў, што прыезд біскупа стаў важнай падзеяй для ўсёй парафіі: “Заўсёды прыезд біскупа да нас з’яўляецца вельмі радаснай падзеяй, бо гэта азначае еднасць касцёла. Гэтым мы паказваем усяму свету, што мы разам з Богам перамагаем свае слабасці і спакусы д’ябла”.

Са сваім пробашчам згодныя і вернікі. “Уся парафія адчувае гэтую еднасць, і калі прыязджае біскуп, які пачынаў працаваць у нашай парафіі святаром, – гэта такі прыемны ўспамін з маладосці, – падзяліўся Міхаіл Чарняўскі.

А на заканчэнне Імшы ўсе вернікі яшчэ раз прачыталі малітву пра пакліканне, бо калі ў Каталіцкі Касцёл будуць прыходзіць маладыя беларускія святары, у яго будзе і будучыня.



## пра духоўнае адзенне ў Касцёле?

А. Стула
Б. Альба
В. Святарская стужка

**6.** На фота – галаўны ўбор найвышэйшага духавенства. Бывае розных колераў у залежнасці ад іерарха. У біскупа – фіялетавага колеру, у Папы Рымскага – белага.



А. Піуска
Б. Берэт
В. Мітра

**7.** Гэты галаўны ўбор, які носяць біскупы падчас святой Імшы, называецца:



А. Піуска
Б. Мітра
В. Чапец

**8.** Традыцыйны галаўны ўбор рыма-каталіцкага духавенства называецца:



А. Берэт
Б. Капялюш
В. Чапец

**9.** Літургічнае адзенне міністранта, святара ці дыякана. Гэта аблачэнне можа быць толькі белага колеру, апранаецца ў час служэння пры алтары або пры выкананні іншых літургічных абавязкаў.




А. Вэлюм
Б. Арнат
В. Комжа

**10.** На фота – літургічнае адзенне, якое святар апранае на святую Імшу. Колер гэтага адзення змяняецца ў залежнасці ад літургічнага перыяду.



А. Альба
Б. Арнат
В. Раса

**Падрыхтавала Ірына Радзевіч**

# Каляндар на сакавік



**1 сакавіка – Папяльцовая Серада.**

Папяльцовая Серада распачынае перыяд Вялікага посту, які доўжыцца 40 дзён. Традыцыйна ў гэты дзень адбываецца абрад пасыпання галоў попелам. Сам звычай пасыпання галоў попелам на знак жалю і пакуты вядомы ў многіх культурах і традыцыях. Мы знаходзім яго як у Старажытным Егіпце і Старажытнай Грэцыі, так і ў індзейскіх плямёнаў. Таксама, вядома, і на старонках Бібліі, напрыклад, у Кнізе Ёны або Ёэля. Літургічная адаптацыя гэтага звычаю з'яўляецца, аднак, толькі ў VIII стагоддзі. Першыя сведчанні пра асвячэнне попелу вядомыя з X стагоддзя. У наступным стагоддзі Папа Урбан II увёў гэты звычай як абавязковы ва ўсім Касцёле. Таксама з таго часу паходзіць традыцыя атрымання попелу да пасыпання галоў вернікаў з пальмаў, пасвечаных у Пальмавую Нядзелю папярэдняга года.

**4 сакавіка – успамін святога Казіміра.**

Дзень імянін усіх, хто мае імя Казімір. Святы Казімір, каралевіч, з'яўляецца апекуном моладзі, а таксама абраны апекуном Гродзенскай дыяцэзіі і горада Гродна. Святы Казімір таксама галоўны апякун Літвы. У Вільні, у катэдральным касцёле, знаходзяцца яго рэліквіі.

**20 сакавіка – урачыстасць святога Юзафа.**

Дзень імянінаў усіх, хто мае імя Юзаф ці Юзэфа. Святы Юзаф – апякун Найсвяцейшай Панны Марыі і Езуса Хрыста на зямлі. Паходзіў з дому і роду цара Давіда. Святы Юзаф з'яўляецца апекуном добрай смерці. Святы Айцец Пій IX у 1871 годзе абвясціў святога Юзафа галоўным апекуном усяго Каталіцкага Касцёла. У гэты дзень удзел у св. Імшы з'яўляецца абавязковым.

**25 сакавіка – Звеставанне Пана.**

Дзень, у які Арханёл Габрыэль абвясціў дзяўчыне Марыі, што яна стане Маці Бога і што пад яе сэрцам з'явіўся Хрыстус. Ва Усходніх Цэрквах гэтае свята адзначалі ўжо ў V стагоддзі, а на Захадзе – з часоў пантыфікату Грыгорыя Вялікага (VII ст.).

У энцыкліцы "Evangelium vitae", абвешчанай 25 сакавіка 1995 г., Ян Павел II прапанаваў штогод у гэта свята адзначаць Дзень жыцця, каб звярнуць увагу грамадскасці на яго каштоўнасць. Для таго, каб кожная жанчына і ўсе людзі, нягледзячы ні на якія складанасці і праблемы, па прыкладзе Марыі заўсёды казалі "так" новаму жыццю з моманту зачацця.

У апошнія гады ў Беларусі пашыраецца добрая традыцыя духоўнага ўсынаўлення. Ва ўрачыстасць Звеставання Пана (а таксама і ў іншыя марыйныя святы) многія вернікі бяруць на сябе абавязак на працягу дзевяці месяцаў маліцца за дзіця, якому пагражае небяспека аборту.

*Падрыхтавала*
*Ірына Радзевіч*

# Беларусь у "святых" гербах: Барысаў

**Сёння зноў вяртаемся да постаці святога Пятра, галоўнага апостала. Сваё месца на гербе Барысава яму давялося адваёўваць на працягу некалькіх стагоддзяў. Выява сённяшняй версіі герба аднаго з нашых самых старадаўніх гарадоў пацвярджае: Пётр перамог.**

**а. Андрэй Сідаровіч**, *марыянін, Росіца*





Свой герб разам з Магдэбургскім правам Барысаў, заснаваны ў 1102 г., атрымаў дастаткова позна. Можна адназначна сказаць, што гэта былі апошнія дні існавання Рэчы Паспалітай. Кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ў 1792 г. надаў Магдэбургскае права, а з ім і гербы шэрагу беларускіх гарадоў. У большасці гэта былі выявы з рэлігійнай тэматыкай.

Апісанне герба Барысава кажа адназначна, што постаць над сярэбранымі варотамі з дзвюма вежамі – гэта святы Пётр. Ключы ў яго руцэ нагадваюць пра пастырскую ўладу, атрыманую ад Хрыста. Апісвае гэта Евангелле паводле святога Мацвея: «І Я кажу табе, што ты, Пётр, – скала, і на гэтай скале Я пабудую Касцёл Мой, і брамы пякельныя не пераможуць яго. Я дам табе ключы Валадарства Нябеснага, і што звяжаш на зямлі, тое будзе звязана ў небе, а што развяжаш на зямлі, тое будзе развязана ў небе» (Мц 16,18-19). Апісанне герба сведчыць, што ключы маюць розныя колеры – залаты і сярэбраны. Кожны з іх адлюстроўвае сваё значэнне: залаты адчыняе брамы Божага Валадарства, а сярэбраны – зачыняе.

У гэтым кантэксце вароты з вежамі не што іншае, як брама Божага Валадарства. Таксама карыстаючыся евангельскай падказкай, можна дапусціць меркаванне, што гэта сімвал Касцёла, які не пераможуць сілы зла, або, як кажа Евангелле, пекла.

Трапіўшы пад панаванне Расійскай Імперыі, Барысаў мусіў згадзіцца з новай выявай свайго герба. Так, Пётр застаўся, але разумнне цэласнасці ўсёй выявы радыкальна змянілася. Па першае, герб падзялілі на два "паверхі", і на першым змясцілі двухгаловага арла, сімвал Імперыі, сімвал свецкай улады, а ўжо ўнізе намалявалі св. Пятра і дзве баявыя вежы. Так сімвал брамы Божага Валадарства і сімвал Касцёла стаўся знакам абаронных магчымасцяў самога горада. І першапачаткова рэлігійны герб атрымаў свецкі характар.

Свецкую рэдакцыю герба стараліся захаваць і пры яго рэканструкцыі ў пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя. На ім адлюстравалі дзве вежы як сімвал горада, і ў месцы, дзе раней знаходзіўся св. Пётр, уставілі дату заснавання. Але такая версія барысаўскага герба праіснавала нядоўга.

Сёння св. Пётр займае сваё пачэснае месца на гербе Барысава, апякуючыся яго жыхарамі і гасцямі.

## Што Вы ведаеце пра духоўнае адзенне ў Касцёле?

**Адказы на тэст са стар. 8–9**

1. **Б.** Сутана
2. **А.** Каларатка
3. **А.** Габіт
4. **Б.** Палярынка
5. **А.** Стула
6. **А.** Піуска
7. **Б.** Мітра
8. **А.** Берэт
9. **В.** Комжа
10. **Б.** Арнат

# На сакавік прыпадаюць дні нараджэння і імяніны наступных святароў і біскупаў:

**4 сакавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Алег Кудэрка**, **кс. Казімір Жыліс SJ** *(Гродна)*; імяніны адзначаюць **кс. Казімір Акушка** *(Плюсы)*, **кс. Казімір Шыдэлка SDB**, **кс. Казімір Янджэйчак OMI** *(Селіванаўцы)*, **кс. Казімір Ляховіч** *(Быстрыца)*, **кс. Казімір-Тадэвуш Мараўскі** *(Гудагай)*, **кс. Казімір Мурава** *(Жупраны)*, **кс. Казімір Вальчук**, **кс. Казімір Жывалеўскі** *(Лабна)*;

**5 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Валерый Шэйгерэвіч OFMConv** (Свіслач);

**6 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Зянон Шчонхар** *(Відзы)*;

**7 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **а. Вальдэмар Куява** *(Удзела)*;

**8 сакавіка** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **а. Вадзім Мізер MIC** *(Барысаў)*;

**10 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Ян Пецюн** *(в. Асава)*;

**12 сакавіка** – імяніны адзначае **кс. Гжэгаж Ксёнжэк SchP** *(Чавусы)*;

**13 сакавіка** – гадавіну абрання папам адзначае **Папа Рымскі Францішак**;

**16 сакавіка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Юзаф Пятушка MIC** *(Барысаў)*;

**17 сакавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Ігнат Санюта**, **кс. Аляксандр Рудзевіч** *(Тракелі)*; імяніны адзначае **кс. Збігнеў Драгула** *(Старыя Васілішкі)*;

**18 сакавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **біскуп Віцебскі Алег Буткевіч**, **кс. Аляксандр Севасцьяновіч** *(Мір)*, **кс. Віктар Субель** *(Трабы)*;

**19 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Валерый Аброшка**; імяніны адзначаюць **а. Юзаф Пятушка MIC** *(Барысаў)*, **кс. Юзаф Мельдзюк** *(Вішнева)*, **Юзаф Багдзевіч** *(Астравец)*, **кс. Юзаф Гэнза CSsR**, **кс. Юзаф Гіль**, **кс. Юзаф Ганчыц** *(Ліда)*, **біскуп Юзаф Станеўскі** *(Гродна)*, **кс. Юзаф Трубовіч**;

**21 сакавіка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*;

**23 сакавіка** - дзень нараджэння адзначаюць **кс. Рычард Якубец** *(Мікелеўшчына)*;

**24 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Лебядзевіч**;

**28 сакавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Аляксандр Амяльчэня**, **кс. Ян Гавецкі**, **кс. Віталь Пяцельчыц SChP** *(Шчучын)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Вячаслаў Пялінак** *(Ідолта)*;

**30 сакавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Ігар Лашук SDB**, **кс. Вадзім-Уладзіслаў Сурвіла** *(Магілёў)*; імяніны адзначае **кс. Ігар Лашук SDB**;

**31 сакавіка** - дзень нараджэння адзначае **кс. Віталь Дабраловіч**.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтавала*
*Ірына Радзевіч*



# Почему монахини и священники носят обручальные кольца?

***Почему некоторые католические монахини и священники носят обручальное кольцо, причем на разных руках?***

Обручальные кольца являются символом верности и нерасторжимой связи между супругами. Раньше обряд совершения Таинства Брака предписывал, чтобы жених надевал кольцо на безымянный палец левой руки невесты. Считалось, что кольцо следует носить на левой руке, которая ближе к сердцу. Затем жених надевал кольцо сам себе.

В современном чине Таинства Брака предписывается просто надевать кольцо на безымянный палец, и не уточняется, на какой именно руке. Во многих регионах сохранился обычай носить кольцо на левой руке. Сами супруги во время обряда обмениваются кольцами, произнося следующие слова: "Прими это кольцо как знак моей верности и любви – во имя Отца, и Сына, и Святого Духа".

Епископы носят перстень как символ их бракосочетания с Церковью. В одном из текстов святого Оптата Милевитского говорится, что епископ носит перстень ut se sponsum Ecclesiae cognoscat – чтобы его узнавали как обручника Церкви. Аббаты, аббатисы и монахини, согласно предписаниям их орденов, также носят кольцо на правой руке.

Даже если ношение кольца не предписано уставом общины, некоторые священники, монахини и даже не состоящие в браке миряне носят кольцо на правой или левой руке как благочестивый знак. Некоторые также носят четки Розария в форме кольца для удобства прочтения этой молитвы и в знак покровительства Пресвятой Богородицы.

*Радио Ватикана*

# Ці лічыць Касцёл інквізітараў святымі?

***"Цікаўлюся гісторыяй. Даведалася, што многія інквізітары, якія жылі ў сярэднія вякі, былі прылічаныя тады да ліку святых. Касцёл і цяпер прызнае гэтых людзей святымі? Ад іх рук загінула вялікая колькасць людзей, на мой погляд, цалкам невінаватых..."***

*Аляксандра*

**На пытанне адказвае ксёндз Ян Раманоўскі:**

– Заўсёды, калі гаворка ідзе пра гісторыю Каталіцкага Касцёла, часта ўспамінаецца інквізіцыя. Многія выкарыстоўваюць гэты аргумент, гаворачы, што Касцёл у сярэднія вякі зрабіў шмат крыўды праз інквізіцыю, асудзіў і пазбавіў жыцця нявінных людзей, не даваў магчымасці развівацца навуковым тэорыям і да таго падобнае. Аднак у гэтым выпадку вельмі важна разгледзець розныя аргументы, якія могуць дапамагчы па-іншаму паглядзець на ўсю праблему.

Слова "інквізіцыя" ад лац. "inquisitia" азначае "даследаванне". Пачатак гэтай інстытуцыі можна шукаць ужо ў апостальскія часы, калі апосталам даводзілася змагацца з рознай ерассю, якая ўзнікала ўжо ў першых стагоддзях хрысціянства (пар. 1 Кар 5, 13; 1 Цім 1, 20; Ціт 3, 10-11). Тое, што сёння інквізіцыя вельмі часта атаясамліваецца са злом, – гэта "заслуга" антыкаталіцкіх плыняў і таксама ідэалогіі перыяду Асветніцтва, якая паглыбіла гэтыя погляды. Аднак на самай справе названая інстытуцыя была ўтворана як касцельны трыбунал веры, скіраваны на выкрыццё і даследаванне вераВучэнняў, што супярэчылі дагматам Каталіцкага Касцёла.

Каб зразумець, чым з'яўлялася інквізіцыя, трэба мець на ўвазе палітычны і сацыяльны перыяд, у які яна ўзнікла, значэнне рэлігіі і веры ў тыя часы, а таксама раздзяляць інквізіцыю касцельную і дзяржаўную. Як было сказана вышэй, касцельная інквізіцыя скіроўвалася ў першую чаргу на абарону каталіцкага веравучэння і на захаванне справядлівасці судовай улады. Падпарадкоўвалася яна Апостальскай Сталіцы і складалася з духоўных і свецкіх асобаў, якія павінны былі вылучацца добрымі звычаямі, пабожнасцю, а таксама ведамі з тэалогіі і права. З іншага боку, важным з'яўляецца той факт, што інквізіцыйныя працэсы працягваліся некалькі гадоў, і няправільна будзе лічыць, што вельмі часта прысуды выдаваліся без разбору, каб знішчыць як мага больш людзей, каторыя мелі свае погляды. Гэта можна ўбачыць у некаторых фільмах або пачуць у аргументах супраць Каталіцкага Касцёла, дзе інквізітары паказваюцца толькі як крывавыя і бязлітасныя тыраны.

Калі гаварыць пра тых, хто ўваходзіў у склад інквізіцыі, то насамрэч сярод вядомых "інквізітараў" ёсць і такія, якія Каталіцкім Касцёлам афіцыйна кананізаваныя. Сярод іх, напрыклад, св. Пётр Мучанік, св. Ян Капістран, св. Пётр Арбуэс альбо таксама св. Пій V, Папа. Іх прыналежнасць да інквізіцыі яшчэ не азначае, што яны выдавалі жорсткія прысуды і асуджалі несправядліва нявінных людзей. Дастаткова звярнуць увагу на іх біяграфію, з якой можна даведацца, што ў сваім жыцці названыя асобы вылучаліся моцнай верай, служэннем тым, хто меў патрэбу, пабожнасцю. Таксама многія з іх нават былі замучаныя і аддалі жыццё за сваю веру і вернасць Касцёлу. А гаварыць пра тое, што ўсе інквізітары выдавалі смяротныя прысуды, палілі на вогнішчах усіх нязгодных, былі жорсткімі, будзе несправядліва і нерацыянальна.

> **"Тое, што сёння інквізіцыя вельмі часта атаясамліваецца са злом, – гэта "заслуга" антыкаталіцкіх плыняў і таксама ідэалогіі перыяду Асветніцтва"**

З іншага боку, гісторыя Каталіцкага Касцёла не адмаўляе, што былі на самай справе інквізіцыйныя працэсы, якія заканчваліся смяротнымі прысудамі. Але яшчэ раз трэба падкрэсліць, што будзе няправільным і несправядлівым казаць: інквізіцыя знішчыла мільёны людзей. Сёння можна знайсці вельмі шмат гістарычнай літаратуры, якая абапіраецца на архіўныя дадзеныя, каторыя паказваюць рэальную дзейнасць інквізіцыі.

Дарэчы, таксама можна сказаць, што сёння Святая Кангрэгацыя Навукі Веры працягвае заданне інквізіцыі і якраз стаіць на абароне каталіцкага веравучэння. Аднак не мае такога ўплыву на грамадскае і палітычнае жыццё, які мела інквізіцыя ў свой час.

# Ці трэба цалаваць стулу пасля споведзі?

***"Хвала Хрысту! Ці абавязкова пасля сакраманту Споведзі цалаваць стулу*?"***

*Павел*

**На пытанне адказвае айцец Андрэй Сідаровіч MIC з Росіцы:**

– Хвала на векі! Цалаваць стулу пасля споведзі неабавязкова. Традыцыя цалавання стулы існуе не ва ўсіх каталіцкіх краінах. Нават у межах адной дзяржавы такія звычаі могуць адрозніваццa. Напрыклад, у нашых суседзяў палякаў звычаю цалавання стулы пасля споведзі няма ў Сілезіі.

Што гэты звычай азначае? Стула – знак святарскай улады, атрыманай ад Хрыста. Цалуючы стулу, мы выказваем падзяку святару за яго служэнне і Хрысту за Яго ласку прабачэння грахоў. У старэйшага пакалення вернікаў захавалася таксама традыцыя цалавання рукі святара пасля споведзі. Раней мне падавалася, што гэта лішняе, не евангельскае. Толькі з досведам прыйшло разуменне, што гэта выраз вялікай пашаны да святара як да служыцеля Божага. Мне падаецца, што старэйшае пакаленне больш выразна ўяўляе сабе цяжар святарскага служэння, яго складанасць і неадназначнасць жыццёвага выбару.

*Стула – доўгая вузкая стужка, элемент літургічнага адзення святара.

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры! Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.**

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Рэгіна Маслова** *(Браслаў)*, **Вінцэнт Навіцкі** *(Браслаў)*, **Ядвіга Розель** *(Ашмяны)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Галіна Каспяровіч** *(Мураваная Ашмянка)*, **Ядвіга Цвячкоўская** *(Латышонкі)*, **Ядвіга Барткевіч** *(Слабодка)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Рэгіна Савіцкая** *(Гаўрылаўцы)*, **Елізавета Барткевіч** *(Слабодка)*, **Юзэфа Мількевіч** *(Слабодка)*, **Стэфанія Глод** *(Слабодка)*, **Ганна Спірыдовіч** *(Лепель)*, **Станіслава Жук** *(Мосар)*, **Галіна Міхалевіч** *(Мосар)*, **Марыя Мурзіч** *(Мосар)*, **Ірэна Сіманенка** *(Мосар)*, **Рэгіна Бука** *(Радзюкі)*, **Зоф'я Ласоўская** *(Радзюкі)*, **Рамуальда Асітрова** *(Радзюкі)*, **Часлава Яцына** *(Шаркаўшчына)*, **Алена Кукліна** *(Баравуха)*, **Вераніка Курыловіч** *(Мосар)*, **Жанна Закрэўская** *(Мёры)*, **Тэрэса Вішнеўская** *(Каменполле)*, **Алена Балай** *(Мосар)*, **Соф'я Чырвінская** *(Язні)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***
***"Каталіцкага Весніка"***




## Хвала Хрысту!

З нагоды імянін, якія **ксёндз Раман Мурзіч** адзначае 28 лютага, шчыра яго віншуем!

Жадаем Вам, ксёндз Раман, дароў Духа Святога, апекі Панны Марыі, моцнага здароўя і багатага плёну на Божай ніве. Няхай Усемагутны Бог і Ваш Анёл-Ахоўнік заўсёды берагуць Вас, падтрымліваюць ва ўсіх Вашых планах і задумках на карысць Каталіцкага Касцёла і людзей!

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Параф'янаве***



## Віншуем!

Шаноўны **ксёндз Кшыштаф Мянкіна!** З нагоды Дня нараджэння жадаем Вам духоўных і фізічных сіл для далейшага служэння, моцнага здароўя, шчодрай Божай дапамогі і ажыццяўлення душпастырскіх планаў! Няхай добры Бог адорвае Вас усімі патрэбнымі ласкамі і ўзмацняе ў выкананні нялёгкага святарскага служэння, а святы Заступнік хай няспынна моліцца за Вас перад Божым алтаром. Няхай Святы Дух атуляе сваім святлом кожны дзень Вашага святарскага служэння, хай Езус заўсёды будзе Вашым сябрам, а Яго Маці прытуляе Вас да свайго сэрца! Дзякуем Вам за духоўную апеку, за клопат пра нашу святыню, за ўвагу да кожнага верніка нашай парафіі, за навуку, за шчырую малітву і цярплівасць!

***Аляксандр Сінкевіч ад імя ўсіх вернікаў мёрскай парафіі Унебаўзяцця НПМ і св. Язафата Кунцэвіча, біскупа і мучаніка***



## Пахвалёны Езус Хрыстус!

Шчыра віншуем з Днём нараджэння **ксяндза Аляксея Асона**, які працаваў у нашай парафіі. І няхай ксёндз Аляксей працаваў на нашай Ушацкай зямлі не вельмі працяглы час, але многае зрабіў для каталіцкай супольнасці.

Мы ўдзячныя Вам за Божае слова, за Вашу глыбокую веру, за нястомную працу на карысць Касцёла, за аптымізм і ўвагу да кожнага з нас. Але асабліва ўдзячныя вернікі нашай парафіі за Вашу карпатлівую працу з моладдзю, плён якой мы з радасцю назіраем і зараз.

Молімся за Вас і жадаем, паважаны ксёндз Аляксей, моцнага здароўя, Божай мудрасці і апекі Панны Марыі для Вас і Вашых родных!

Запрашаем Вас, ксёндз Аляксей, наведаць нашу парафію. Заўсёды рады будзем сустрэцца з Вамі.

***З вялікай павагай, любоўю і ўдзячнасцю, вернікі з парафіі святога Лаўрэна (Ушачы)***

## Хвала Хрысту!

16 лютага адзначае свой юны жыццёвы юбілей **ксёндз Юзаф Сярпейка.** Удзельнікі малітоўнага руху «Маргарытка» з Рубяжэвіч віншуюць з гэтай нагоды таленавітага душпастыра.

Мы жадаем Вам, паважаны ксёндз Юзаф, Божай ласкі на кожны дзень, плёну ў духоўным служэнні людзям і Айчыне, святарскага шчасця ад навяртання да Бога і веры душ, скалечаных у жыццёвых нягодах і распусце. Няхай апека Маці Божай і Анёлаахоўніка дазволіць здзейсніцца ўсім Вашым самым светлым марам і памкненням!

Памятаем, молімся, верым!



## Пахвалёны Езус Хрыстус!

Дасылаем словы віншавання, вялікай удзячнасці і радасці нашаму паважанаму **біскупу Алегу Буткевічу** з нагоды імянін, якія ён адзначае 26 лютага.

Шаноўны біскуп Алег! Жадаем Вам моцнага здароўя, шчасця і незлічоных праяваў Божай міласэрнасці! Няхай Божая ласка атуляе ўсе Вашы пачынанні і справы! Натхнення і плёну на Божай ніве! Няхай Маці Божая Валадарка азёраў абараняе ад небяспекі і атуляе Вас бясконцай любоўю!

***З павагай і малітвай, святары, сёстры законныя і вернікі касцёла Нараджэння Маці Божай у Браславе***



## Пахвалёны Езус Хрыстус!

Добры дзень, паважаная рэдакцыя! Піша вам Марыя Ючкавіч з Сітцаў.

Люты багаты на імяніны. Так, свае імяніны адзначаюць нашы **святары Аляксей Юркайць** і **Раман Мурзіч**, якіх мы, вернікі парафіі Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, хочам ад усёй душы павіншаваць!

Свае найлепшыя пажаданні і падзяку за душпастырскую паслугу з вялікай прыемнасцю дасылаем таксама **біскупу Алегу Буткевічу** з нагоды яго імянінаў!

Калектыву рэдакцыі мы ўдзячныя за плённую працу на Божай ніве. Жадаем далейшых поспехаў і натхнення.

З Богам!



## Шаноўны пробашч Аляксей Асон!

Віншуем Вас з Днём нараджэння! Жадаем Вам моцнага здароўя, поспехаў у дасягненні пастаўленых мэт, каб вялі за сабой не адно пакаленне і дапамагалі знайсці сапраўдную дарогу ў жыцці тым, хто не знайшоў яшчэ шлях да Бога. Зычым Вам Божага благаслаўлення і апекі Маці Божай.

Ад усяго сэрца дзякуем за працу ў нашай капліцы, а таксама за цярплівасць да нас. Няхай Міласэрны Бог узнагародзіць Вас за ўсё добрае, што Вы робіце!

***Вернікі капліцы Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (в. Більдзюгі)***



## Хвала Хрысту!

17 лютага адзначае 17-годдзе існавання хор «Ave Maria» касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім. Шчыра дзякуем хору, яго кіраўнікам за супольную малітву падчас святой Імшы ў нядзелю і ў іншыя ўрачыстасці!

Паважаныя ўдзельнікі хору! Здароўя вам, натхнення Духа Святога! Няхай святая Цэцылія заўсёды будзе з вамі!

***Ад імя вернікаў парафіі, Даната Сярогіна***



## Хвала Хрысту!

***Ваша Эксцэленцыя, ксёндз-біскуп Алег!***

*Прыміце словы шчырага вітання*
*З нагоды вашых светлых імянінаў!*
*Час візітацыі, час нашага спаткання*
*У душах вернікаў глыбокі след пакінуў.*

*Пазнанне Бога праз дабро і святасць,*
*Праз прыгажосць зямную, чысціню...*
*Казанні Вашы маюць плён багаты,*
*Нясуць надзею нам і веры глыбіню.*

*Вы моцнай вераю яднаеце супольнасць,*
*Умееце тактоўна кіраваць.*
*І талент маеце музычны, здольнасць,*
*Каб "Ночка ціхая..." прыгожа так спяваць.*

*Хай Дух Святы дарамі напаўняе,*
*Няхай у сэрцы радасць прамяніцца,*
*Хай Езус Міласэрны благаслаўляе.*
*Штодзённа рады мы за вас маліцца.*

*Няхай Пан Бог адорыць Вас здароўем,*
*Марыя-Дзева ласкай атуляе.*
*З сардэчнасцю, павагай і любоўю*
*Мы віншаванне гэта дасылаем!*

28 лютага адзначае імяніны **ксёндз Раман Мурзіч,** пробашч парафіі імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Параф'янаве. З гэтай нагоды прыміце, шаноўны ксёндз-пробашч Раман, нашыя сардэчныя віншаванні.

*З імянінамі! Няхай настрой вясёлы*
*Будзе ў Вас не толькі ў гэты дзень.*
*Дзень найсветлы Вашага анёла,*
*Які Вас аберагае і вядзе.*

*Справы, Вам даручаныя Богам,*
*Няхай множацца няспынна, дзень пры дні.*
*Дружна мы акажам дапамогу,*
*Нам няцяжка працаваць ані.*

*Для ўслаўлення Бога, для касцёла,*
*Каб прыгожы быў заўжды наш храм.*
*Усё змяняецца да лепшага наўкола,*
*Мы за гэта шчыра ўдзячны Вам.*

*Ад душы жадаем, ойча мілы,*
*Вам здароўя, радасці, святла.*
*Няхай Пан нябесны дасць Вам сілы,*
*Каб паслуга плённаю была.*

*Каб здзяйсняліся ўсе планы і задумы,*
*Дух Святы заўжды дапамагаў,*
*Каб анёл ад сумятні і тлуму*
*У зямным жыцці аберагаў.*

*Новых планаў, радасных імгненняў*
*На шляху, што Бог наканаваў.*
*Шчырая падзяка, захапленне*
*Вам ад вернікаў за безліч добрых спраў!*

Сардэчна віншуем **ксяндза Аляксея Юркайця** з імянінамі.

*Паважаны ксёндз Аляксей!*
*Імянінаў Вашых урачыстасць –*
*Гэта і для нас святочны дзень.*
*Вы даносіце нам веры існасць,*
*Нібы шчодрай Боскасці прамень.*

*Як жывую іскру праўды Божай,*
*Што нас кліча з цемры да святла.*
*Слухаючы голас Ваш прыгожы,*
*Хочам мы, каб дзейснаю была*

*Наша вера, нашая малітва,*
*Што мы ўзносім кожны дзень за Вас.*
*Шчырым сэрцам і душой адкрытай*
*Раздзяляем Ваш святочны час.*

*Дык прыміце ж нашы віншаванні!*
*Шчасця Вам, здароўя і святла!*
*Няхай збудуцца ўсе Вашыя жаданні,*
*І каб вера доўга-доўга Вас вяла*

*Па сцяжыне Божага служэння,*
*Каб анёл з нябёс аберагаў,*
*Дух Святы каб адарыў натхненнем*
*Для казанняў, для штодзённых спраў.*

*Хай Марыя-Дзева атуляе*
*Ласкаю, як матчыным плашчом,*
*Езус Хрыстус хай дабраслаўляе!*
*Прывітанне шчырае Вам шлём!*

***Удзячныя вернікі парафіі Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Параф'янаве***

# Як стварыць новую сям'ю, калі ўжо браў шлюб?

*"Я браў шлюб, але, на жаль, сям'ю захаваць не ўдалося. Зараз я пазнаёміўся з жанчынай, з якой хацеў бы стварыць сям'ю. Яна не брала шлюбу. Для яе шлюб вельмі важны. Для мяне таксама. Але, на жаль, гэта немагчыма. Жыць у граху мы не хочам. Што вы можаце параіць?"*
*Сяргей*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD (Міждыяцэзіяльная вышэйшая духоўная семінарыя імя святога Тамаша Аквінскага, Пінск):**

– Паважаны Сяргей! Дзякуй вам за пытанне, якое, магчыма, клапоціць і іншых чытачоў "Каталіцкага Весніка". На самым пачатку зазначу, што пытанні, каторыя датычаць сужэнства, вельмі важныя і закранаюць адну з жыццевызначальных ліній сучаснага чалавека. Яны асаблівым чынам блізкія каталіцкаму тэалагічна-маральнаму вучэнню.

## Сужэнства ў збаўчым плане Бога

Каталіцкі Касцёл разумее сакрамантальнае сужэнства як саюз, праз які мужчына і жанчына ўтвараюць паміж сабою супольнасць на ўсё жыццё дзеля ўласнага дабра, а таксама для нараджэння і выхавання дзяцей[1]. Дзякуючы Божай ласцы, якая ўдзяляецца праз сакрамант сужэнства, супольнасць мужчыны і жанчыны становіцца хатнім Касцёлам, у якім як сужэнцы, так і дзеці ды іншыя члены сям'і ўзрастаюць у хрысціянскім пакліканні. Ва ўзгаданым вышэй фрагменце катэхізіса сцвярджаецца, што сакрамантальная сужэнская супольнасць ствараецца на ўсё жыццё. Такім чынам, у адпаведнасці з Традыцыяй Касцёла і яго заканадаўствам, каталіцкае сужэнства – непадзельнае і непарыўнае. Кодэкс Кананічнага Права выразна пацвярджае, што сужэнства, сапраўдна заключанае і дапоўненае, не можа быць разарвана аніякай чалавечай уладай і па ніякай прычыне, апрача смерці[2]. Узгаданы канон абапіраецца на словы Пана Езуса Хрыста: "Што Бог злучыў, чалавек няхай не разлучае" (Мц 19,6).

У сужэнстве і сям'і чалавечая асоба ідзе па дарозе збаўлення. Свядомыя нарачоныя, якія заключаюць шлюб перад абліччам Бога, ведаюць і разумеюць, што хочуць кахаць адно аднаго

1 Пар. Катэхізіс Каталіцкага Касцёла, 1601.
2 Пар. Кодэкс Кананічнага Права, канон 1141.



ў моцы, вернасці, мудрасці і ласцы, якія атрымліваюць ад Хрыста. Яны таксама адкрываюцца на дзеянне Бога і Яго дапамогу, асабліва ў час выпрабавання, складанасцяў ці спакусаў. Было б ідэальна, калі б нарачоныя думалі пра сваё сужэнства ў перспектыве святасці, якая з'яўляецца паўсюдным пакліканнем усіх вернікаў. Душпастырства нарачоных ці непасрэдная падрыхтоўка да сужэнства ставіць мэтаю перадаць вернікам неабходныя веды адносна каталіцкага вучэння, маральнасці і духоўнасці сужэнства, а таксама дапамагчы ў дасягненні адпаведнай сталасці і паўнаты чалавечнасці дзеля заснавання трывалай і шчаслівай сям'і.

Вакол сябе можам назіраць шмат шчаслівых сем'яў, у якіх сужэнцы дзесяцігоддзямі захоўваюць каханне і вернасць. Ад такіх людзей, незалежна ад іх узросту, зыходзіць прыемны водар чалавечай прыгажосці і пастаяннай маладосці. Дзякуй Богу за такія сужэнствы: яны пуцяводныя зоркі для сучаснікаў! Імі таксама, напэўна, радуецца ўсё неба.

## Боль разводу і клопат Касцёла

Здараецца, на жаль, і так, што сужэнцы пасля нейкага часу сумеснага жыцця разыходзяцца, бяруць развод. Пастаўленае тут пытанне датычыць сітуацыі вернікаў, якія менавіта ўзялі развод і ўжо заключылі новы саюз або маюць намер гэта зрабіць. Цікавым мог бы стаць аналіз прычын і акалічнасцей разводаў сярод вернікаў, але здаецца, што правесці яго было б даволі складана і заняло б шмат часу і месца.

Святы Ян Павел II звяртае ўвагу, што душпастыры, адказныя за сваіх вернікаў, павінны адпаведна распазнаць сітуацыі разведзеных. Папа бачыць розніцу між тымі, хто шчыра імкнуўся ацаліць сваё сужэнства і быў пакінуты, а таксама тымі, хто па сваёй цяжкай віне знішчыў сапраўднае кананічнае сужэнства[3]. Вялікае значэнне мае таксама матывацыя заключэння новага сужэнства. Напрыклад, дзеля выхавання дзяцей. У сувязі з гэтым Святы Айцец дадае: сужэнцы, якія дзеля выхавання нашчадкаў уступаюць у несакрамантальны шлюб, часта суб'ектыўна перакананыя ў сумленні, што знішчанае сужэнства ніколі не было сапраўдным[4]. Пра розныя акалічнасці, матывацыі разводаў і душпастырскую дапамогу разведзеным гаворыць Папа Францішак у адгартацыі, напісанай пасля апошняга Сінода Біскупаў, прысвечанага сям'і[5]. Касцёл праз Настаўніцкі Інстытут пацвярджае, што разведзеныя вернікі, якія жывуць у новым саюзе, не могуць прыступаць да Святой Камуніі[6]. Трэба разумець, што немагчымасць прыступіць да Эўхарыстычнай Камуніі не ёсць пакараннем, але тэалагічна абгрунтаванай практыкай, якая не дапускае да Камуніі вернікаў, каторыя жывуць у цяжкім граху. Гэта не значыць, што Касцёл асуджае вернікаў, якія пасля разводу заключылі новы

3 Пар. Ян Павел II, Апостальская адгартацыя *Familiarisconsortio,* 84.
4 Пар. Тамсама.
5 Пар. Францішак, Апостальская адгартацыя *Amorislaetitia*, 296 - 312.
6 Пар. Ян Павел II, Апостальская адгартацыя *Familiarisconsortio,* 84;Ян Павел II, Апостальская адгартацыя *Reconciliatioetpaenitentia*, 34;Бэнэдыкт XVI, Апостальская адгартацыя Sacramentumcaritatis, 29.

саюз. Асабліва ясна гучаць словы Папы Францішка, які заахвочвае ўвесь Касцёл дапамагчы жанчынам і мужчынам у падобных жыццёвых сітуацыях знайсці свой спосаб удзелу ў касцельнай супольнасці, каб яны адчувалі незаслужаны, безумоўны і бескарыслівы дар міласэрнасці[7].

## Несапраўдныя сужэнствы

У адпаведнасці з навучаннем Каталіцкага Касцёла, шлюб, сапраўдна заключаны, можа разарваць толькі смерць сужэнца. Найпрасцей кажучы: у Касцёле няма разводаў. Існуюць, аднак, сітуацыі, калі прызнаецца несапраўднасць сужэнства. Ёсць шмат прычын, перашкод і акалічнасцей, якія не дазваляюць уступіць у сужэнства і ўплываюць на яго несапраўднасць. У такіх выпадках, кажучы зразумела, абрад шлюбу здзяйсняецца (нарачоныя ў касцёле кажуць словы прысягі, абменьваюцца пярсцёнкамі, ладзяць вяселле), але безвынікова, г. зн. сужэнства не заключаецца.

Калі вернік мае падазронасць ці сумневы адносна сапраўднасці свайго сужэнства, то ён павінен звярнуцца ў касцельны суд, які праўдзе працэс аб прызнанні несапраўднасці шлюбу ў тым выпадку, калі не можа далей трываць сужэнская супольнасць (напрыклад, быў развод). Здараюцца і такія выпадкі, калі сужэнцы, якія з цягам часу выявілі падставы для сцвярджэння несапраўднасці свайго шлюбу, надалей прагнуць у ім трываць. Тады яны звяртаюцца ў дыяцэзіяльную курыю з просьбай, скіраванай на імя біскупа, пра аздараўленне сужэнства. У абедзвюх прыведзеных сітуацыях практычна можна гэта зрабіць, звяртаючыся да пробашча парафіі, які ў першую чаргу распазнае сітуацыю верніка і паведаміць пра далейшыя дзеянні. Калі працэс выявіць падставы для сцвярджэння несапраўднасці шлюбу, касцельны суд выдае адпаведны вердыкт, а вернік можа заключыць сужэнства ў

7 Пар. Францішак, Апостальская адгартацыя *Amorislaetitia*, 297.

касцёле. У нашых дыяцэзіях частка кананічных працэсаў заканчваецца прызнаннем несапраўднасці сужэнства, што дае вернікам магчымасць поўнага ўрэгулявання сваёй сітуацыі і поўнага ўключэння ў сакрамантальнае жыццё.

## Патрэба малітвы і дапамогі блізкіх

Касцёл заўсёды адчувае адказнасць за сваіх членаў, якія праз хрост увайшлі на дарогу вечнага жыцця. Асаблівым чынам датычыць гэта тых, хто найбольш патрабуе Божай міласэрнасці. Вернікі, якія развяліся і заключылі новы шлюб, хоць не могуць прыступаць да Святой Камуніі, але надалей застаюцца Божымі дзецьмі. Яны павінны маліцца, спадзявацца і імкнуцца да вырашэння сваіх праблем.

Вы, паважаны Сяргей, просіце парады адносна сваёй дылемы. На жаль, немагчыма зрабіць гэта змястоўна і вычарпальна на старонках газеты. Дзеля гэтага патрэбна ў рамках духоўнай размовы дакладней распазнаць сітуацыю. Мяркую, што Вы ўпэўнены ў сапраўднасці свайго сужэнства і не бачыце магчымасці яго ўратавання, імкнецеся ўладкаваць сваё далейшае жыццё. Хтосьці ў падобных акалічнасцях скажа жанчыне, якую любіць: "не хачу закрываць табе дарогу да сакрамантаў, таму прагну, каб ты знайшла мужа, з якім зможаш узяць шлюб", а хтосьці будзе перакананы, што дадзеная жанчына яму наканавана і толькі з ёй хоча жыць. Ва ўсіх складаных акалічнасцях жыцця трэба маліцца, прасіць абпадтрымцы сваіх блізкіх ды звяртацца да сваіх святароў. Калі па нейкіх прычынах не будзе магчымай духоўная размова са сваім душпастырам, то варта шукаць кантакту з духоўнай асобай у іншай парафіі. Трэба таксама памятаць, што не ўсё ў нашым жыцці чорнае або белае і што нават найменшы крок па дарозе да святасці можа спадабацца Богу[8].

Я таксама падтрымліваю малітваю Вас, паважаны Сяргей, і ўсіх у падобнай сітуацыі, просячы Бога, каб дапамог ім вырашыць усе пытанні згодна з Яго воляй.

8 Пар. Тамсама, 305.



# Клуб майстроў у Ляскоўцы

**У дабрачынным каталіцкім таварыстве “Карытас” у вёсцы Ляскоўка пад Мінскам дзейнічае першы і адзіны ў краіне “Клуб майстроў”. “Каталіцкі Веснік” патрапіў на адзін з майстар-класаў па кераміцы і больш падрабязна пазнаёміўся з працай, што ладзіцца ў майстэрні.**

■ Ірына Радзевіч

Ідэя стварэння “Клуба майстроў” належыць Вадзіму і Алесі Козічам. На дадзены момант Алеся праводзіць майстар-класы, а Вадзім актыўна займаецца інтэрнэт прасоўваннем, а таксама дамаўляецца з калегамі пра супрацоўніцтва.

Дырэктар “Карытас” айцец Андрэй Жылевіч OFMCap з радасцю падтрымаў ідэю стварэння такога праекта. Святар распавядае: “Калі маладыя людзі заканчваюць навучальную ўстанову, яны не маюць нейкіх прыладаў або абсталявання, каб распачаць пэўную справу. Гэта своеасаблівая дапамога для іх. Пазней таксама ўзнікла ідэя, каб пры падтрымцы гэтых жа маладых спецыялістаў даваць нейкія прафесійныя навыкі для людзей з абмежаванымі магчымасцямі і навучыць іх канкрэтнай справе. Дзейнасць “Клуба майстроў” – гэта ў першую чаргу стварэнне магчымасцей для маладых інвалідаў”.

Айцец Андрэй лічыць, што гэты праект мае будучыню, бо, навучыўшыся ў майстэрні пэўнай працы, людзі з абмежаванымі магчымасцямі змогуць такім чынам зарабіць сабе на жыццё. Святар мяркуе, што падобная ідэя знойдзе падтрымку ў грамадстве і спадзяецца на ўвагу тых, хто нейкім чынам можа дапамагчы ў развіцці гэтага праекта.



### Майстэрня для ўсёй краіны

У лістападзе 2016 года, пасля таго, як у “Карытас” было выдзелена памяшканне, адбылося адкрыццё майстэрні. Тут можна знайсці ўсё неабходнае абсталяванне, прылады для працы з дрэвам, глінай, скурай і іншымі матэрыяламі. Ёсць печы для абпалу керамікі, ганчарныя станкі, лобзікі, такарны станок і многае іншае.

Дарэчы, на майстар-класе па кераміцы прысутнічалі не толькі дарослыя, але і дзеці. Варта адзначыць, што акрамя мясцовых жыхароў і мінчукоў займацца творчасцю сюды прыязджаюць з розных куткоў краіны. Ужо ў чацвёрты раз на курс па кераміцы патрапіла дзяўчына з Брэста, бо ў родным горадзе няма такой магчымасці для самаразвіцця.

У майстэрні таксама рэалізуюцца праекты, накіраваныя на дабрачыннасць. Нядаўна адбываўся роспіс пернікаў, якія потым прадавалі каля Чырвонага касцёла ў Мінску.

### Наведаць майстар-клас і замовіць выраб

У “Клубе майстроў” праводзіцца шмат майстар-класаў па кераміцы, упрыгожаннях з металу, шкла, скуры, дрэва і іншых матэрыялаў. Ёсць пяць пастаянных майстроў, што праводзяць заняткі. Але і іншыя людзі маюць магчымасць прыходзіць сюды і карыстацца патрэбным абсталяваннем.

Пакуль удзельнікі майстар-класа наносілі з дапамогай інструментаў індывідуальны малюнак на свае талеркі, спадарыня Алеся распавяла, хто можа наведаць майстэрню і колькі каштуюць заняткі: “Прыходзіць можа той, хто пажадае. Ёсць магчымасць наведаць як адны заняткі, так і некалькі. Напрыклад, па аздабленні ў тэхніцы ціфані заняткі разлічаны на тры гадзіны. Такі майстар-клас каштуе каля 40 рублёў. Тут можна атрымаць неабходны вопыт, пэўныя веды і гатовы вынік. Увогуле сярэдні кошт адных заняткаў – ад 30 да 45 рублёў. Калі ж гэта курс цалкам – будзе танней” .

Дарэчы, у “Клубе майстроў” ёсць магчымасць замовіць пэўны выраб у адмыслоўцаў па індывідуальным заказе. Таму калі чытачы “Каталіцкага Весніка” захочуць наведаць майстар-клас або замовіць выраб, можна патэлефанаваць па нумары +375 29 346-89-10 і загадзя ўсё абгаварыць.

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**26 лютага 2017 г.**

***Мц 6, 24-34***

Каго я прызнаю сваім гаспадаром і каму служу: Езусу ці камусьці іншаму? Немагчыма будаваць сваё жыццё, адначасова служачы і Богу, і д’яблу. Такім д’яблам у нашым жыцці могуць быць часовыя даброты, напрыклад, багацце. Гэтага фальшывага бога, як і шматлікіх іншых, настойліва раіць нам, карыстаючыся нашымі страхамі, сучасны свет, але ж за ім, вядома, стаіць сам д’ябал. Гонка за матэрыяльнымі каштоўнасцямі часам перамяняецца ў людзей у іх абагаўленне. Чалавек трапляе ў залежнасць ад багацця і служыць яму, а не лічыцца з Божай воляй. Але лекі ад такой залежнасці ёсць – гэта давер да Бога. А яшчэ пошукі адносін з Ім, Яго Валадарства. Той чалавек, які жыве ў еднасці з Богам, ведае, што ў жыцці важнае, а што другаснае. Ён шукае Божай волі і не трапляе ў грэшныя, дурныя матэрыяльныя аферы, і не траціць грошы на штосьці непатрэбнае.

*– Ці не абагаўляю я матэрыяльныя каштоўнасці?*

*– Ці, прымаючы ў сваім жыцці рашэнні адносна матэрыяльных спраў, прымаю я таксама пад увагу Божыя законы і Божую волю?*

*– Ці не трачу давер да Бога праз страх за сваю матэрыяльную будучыню?*

*– Ці не прымаю неразважлівых і небяспечных рашэнняў у матэрыяльных справах з прычыны празмернай прагі да грошай?*

*– Ці працавіты я?*

*– Ці адказна я стаўлюся да даверaных мне матэрыяльных каштоўнасцей?*

*– Магчыма, я наіўна не прызнаю існавання сапраўдных перашкодаў, калі хачу зарабіць грошай?*

*– Ці не трапляю ў сувязі з гэтым у чарговыя пазыкі і крэдыты, думаючы, што мне неабходны менавіта такі ўзровень жыцця тут і цяпер?*

*– Ці гатовы я памяняць месца жыхарства, працу, умовы жыцця, каб вызваліцца ад празмернага клопату пра грошы?*

*– Ці разумею, што нават не маючы грошай, я магу быць залежны ад прагі багацця?*

*– Ці дапамагаю ўбогім грашыма, часам, рукамі?*

**5 сакавіка 2017 г.**

***Мц 4, 1-11***

Езус сваім прыкладам паказвае нам, што нельга паддавацца спакусе пошукаў лёгкага выйсця. Ён выбірае дарогу паслухмянасці Айцу. Не паддаўся Езус на спакусу сытасці, славы, улады. Ён не хоча, каб выконвалася Яго воля, але воля Айца. У гэтым і ўлада, і слава. Езус – новы Адам – не спакусіўся на д’ябальскія хітрыкі. Ён Пераможца граху і наш Адкупіцель.

*– Якімі спакусамі адводзіць д’ябал мяне ад дарогі любові і Божых законаў?*

*– Ці не лічу я сам сябе разумнейшым за Бога?*

*– Ці не лічу, што Бог не разумее ўсяго?*

*– Ці не з’яўляюцца для мяне мае думка, воля, жаданне мудрэйшымі і каштоўнейшымі за Божыя?*

*– Ці імкнуся выконваць Яго волю нават у дробных справах?*

*– Ці не затрымліваю сваё духоўнае развіццё на думцы, што я яшчэ не найгоршы грэшнік?*

*– Ці не паддаюся спакусе пакрасавацца, праявіцца, заззяць сваёй славай, забываючыся пра Бога і Яго славу?*

*– Ці горды я?*

*– Ці цаню Божыя дары і Божую ласку?*

*– Ці не злоўжываю даверанай мне ўладай?*

*– Як я стаўлюся да слабейшых, да родных, да сваіх дзяцей, да старых, да сужэнца?*

**12 сакавіка 2017 г.**

***Мц 17, 1-9***

Езус не толькі Настаўнік і чаканы Месія. Ён – Бог. Таму з даверам трэба слухаць Яго вучэнне. Апосталы зразумелі сэнс таго, што адбывалася, толькі пасля Спаслання Святога Духа. Нельга затрымацца на гары Табор, бо яны ў дарозе. Езус ідзе ў Ерусалім, каб там памерці і ўваскрэснуць. Сутнасць Аб’яўлення на гары Табор у тым, каб умацаваць вучняў на час выпрабаванняў, калі ім будзе здавацца, што Божая справа прапала і што перамагае Валадар гэтага свету.

*– Ці шукаю на малітве, на Эўхарыстыі, на Адарацыі Божай славы?*

*– Ці шчыра малюся?*

*– Ці чытаю Божае слова, каб у ім знайсці разуменне Божых спраў?*

*– Ці памятаю выпадкі са свайго жыцця, у якіх Бог аб’явіўся найбольш выразна?*

*– Ці вяртаюся ў сваіх малітвах і думках у той час, каб знайсці ўмацаванне?*

*– Ці слухаю Езуса як Бога?*

*– Ці не трымаюся ад Бога здалёк, бо так мне зручней?*

*– Ці памятаю ў сваёй штодзённасці, што Божае Валадарства – гэта еднасць з Богам, і Бог у маім сэрцы?*

**19 сакавіка 2017 г.**

***Ян 4, 5-42***

Езус аб’яўляецца самаранам як Збаўца. Ён прыйшоў выратаваць усе народы, усім прынёс духоўнае аздараўленне. Набліжаецца час збаўчай Пасхі. Ён адкрыта гаворыць пра сваю месіянскую годнасць. Езус расказвае, як будзе выглядаць жыццё ў новай духоўнай рэчаіснасці. Гэта Ён з’яўляецца крыніцай жыцця, якая дае нам жыццё вечнае. Ён распачынае новую якасць культу: культу ў Духу і праўдзе. Культ, які павінен распаліць у сэрцах вернікаў Божы Дух. Езус таксама аб’яўляе, што Яго паслухмянасць Айцу з’яўляецца сутнасцю Яго місіі. Пачутае і прынятае слова Езуса дае веру ў Яго.

*– Ці не маю скажонага паняцця Бога?*

*– Ці не хачу прынізіць Бога да маштабаў маіх думак і ўяўленняў?*

*– Ці прымаю Бога такім, якім Ён аб’явіўся?*

*– А можа, як пакрыўджанае дзіця, пазбягаю Бога?*

*– Ці хачу, каб Езус перамяніў маё жыццё?*

*– А можа, я так прызвычаіўся да сваіх думак пра жыццё, што лічу Езуса не патрэбным?*

*– Ці з’яўляецца Бог сэнсам і крыніцай майго жыцця?*

*– Ці ўсе важныя справы майго жыцця згодныя з Яго воляй?*

*– Ці слухаю Божага Духа?*

*– Ці дазваляю, каб Бог перамяняў маё духоўнае жыццё?*

*– Ці слухаю Божых натхненняў?*

*– Ці паслухмяны я Богу так, як Езус?*

*– Ці цаню Божае слова?*

*– Ці чытаю Біблію і ці жыву паводле яе?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк***
*www. lyntupy.by*

# ПАЗНАВАЙКА

*Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!*

## Што для цябе Біблія?

Францыск Скарына вельмі любіў Біблію. Ён лічыў, што Біблія з'яўляецца лекамі для чалавечай душы.

А чым для цябе з'яўляецца Біблія? Свае думкі запішы ніжэй.




Слова Божае, якое дапамагае ў цяжкія хвіліны

## Цікава ведаць!



Сярод найбольш яркіх і значных прадстаўнікоў беларускай культуры вылучаецца асоба беларускага першадрукара і асветніка Францыска Скарыны. Дарог перад Скарынам было шмат, але ён выбраў адну як самую галоўную - несці людзям святло ведаў. Менавіта ён пераклаў на родную мову Біблію.

Дзякуючы гэтаму яна стала даступнай больш шырокаму колу людзей. Біблія Скарыны стала першай друкаванай беларускай кнігай, а дзейнасць першадрукара аказала вялікі ўплыў на развіццё кнігадрукавання ў Беларусі. Пачынаючы з часоў Францыска Скарыны менавіта Біблія стала адным з галоўных сімвалаў нашай мовы, культуры, сімвалам нашага народа.

## Размалюй прыгожа

Сёлета ў Беларусі святкуецца 500-годдзе беларускага перакладу Біблії. Гэта вельмі значная падзея для нашай краіны. Таму гэтую лічбу – 500 – пастарайся вельмі прыгожа размаляваць!




## Злучы элементы мазаікі

Вельмі актуальнымі ў наш час з'яўляюцца словы Францыска Скарыны пра кнігу. Якія менавіта гэта словы, ты даведаешся, калі правільна злучыш усе элементы мазаікі.

Атрыманы адказ запішы ў правільным парадку







______________________________

## Уважліва прачытай

Кожны з нас моцна любіць сваю Радзіму, свой родны край! У наступным заданні разам з бацькамі прачытаеш словы Францыска Скарыны пра любоў да сваёй зямлі. Будзь уважлівым! На месца некаторых малюнкаў устаў патрэбныя словы!



"Як ад нараджэння _________, што ходзяць у пустыні, ведаюць ямы свае; ________,





што лятаюць у паветры, ведаюць ___________ свае; ___________, што плаваюць па



моры і ў рэках, чуюць віры свае; ____________ і тым падобныя бароняць вуллі свае, -



так і _________________, дзе нарадзіліся і ўскормлены, да таго месца вялікую ласку маюць".

## Адгадай назву горада

Назву беларускага горада, у якім нарадзіўся першадрукар Францыск Скарына, даведаешся, калі выканаеш наступнае заданне.

Кожная літара мае свой асабісты "код". Збяры літары па адной, а атрыманую назву горада запішы.






*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***

# Ксёндз Павел Самсонаў: “Без Бога не да парога!”

**Гэта народнае выслоўе святар прывёў падчас адкрыцця трактарнага ралі ў вёсцы Парыж Пастаўскага раёна. Мерапрыемства прайшло на тэрыторыі Пастаўшчыны і Глыбоччыны ў суботу, 28 студзеня, і сабрала больш за чатыры тысячы гледачоў. Арганізатарам ралі выступіў Мінскі трактарны завод. Ідэя яго правядзення была ўзятая са знакамітага аўтамабільнага ралі “Парыж – Дакар”.**

**Зміцер Лупач, тэкст і фота**



Стартавала ралі ў вёсцы Парыж Пастаўскага раёна. Удзельнікаў мерапрыемства прывіталі кіраўнік раёна Віктар Гутараў, намеснік дырэктара МТЗ Андрэй Суслянкоў, а таксама капітан каманды “МАЗ-СПОРТаўта” Сяргей Вязовіч. Дарэчы, гэтая каманда нядаўна вярнулася са спаборніцтваў “Дакар-2017”, дзе заняла шостае месца, а МАЗ увайшоў у тройку найлепшых аўтамабіляў. Прадстаўнікі каманды прыехалі на спартыўнай машыне, што ўдзельнічала ў сусветна вядомым ралі, каб сваёй прысутнасцю падтрымаць удзельнікаў ралі трактарнага.

Потым удзельнікаў ралі блаславілі праваслаўны і каталіцкі святары. Спачатку выступіў іерэй Георгій Лакотка, настаяцель храма Уваскрэсення Хрыстова з Варапаева, потым ксёндз Павел Самсонаў з Дунілавіч, дэкан Пастаўскага дэканата.

«У нашага народа заўсёды была традыцыя: усе значныя справы пачынаць з малітвы, – адзначыў ксёндз Павел, – бо толькі з Божай дапамогай можна дасягнуць добрых вынікаў. Таму і прыказка такая ёсць у беларусаў: “Без Бога не да парога!”

Перадстартам праваслаўны святар акрапіў трактары святой вадой.

Па ўсім маршруце тэхніку суправаджалі тэлекамеры і квадракоптары. На фінішы ў Мосары ўдзельнікаў ралі віталі тысячы людзей. Прысутнічала тут і прадстаўнічая афіцыйная дэлегацыя, у склад якой уваходзілі Мікалай Шарснёў – кіраўнік Віцебскай вобласці, Уладзімір Цярэнцьеў – старшыня Віцебскага абласнога Савета дэпутатаў, Аляксандр Шумілін – старшыня Дзяржкамітэта па навуцы і тэхналогіях, Фёдар Дамаценка – генеральны дырэктар МТЗ, Аляксандр Агароднікаў – намеснік міністра прамысловасці, кіраўнікі Пастаўскага і Глыбоцкага раёнаў Віктар Гутараў і Алег Морхат, іншыя афіцыйныя асобы.

Падчас свайго выступу кіраўнік Глыбоцкага раёна Алег Морхат узгадаў, што гэтае ралі стала магчымым таксама і дзякуючы таму, што больш за дваццаць гадоў тут працаваў ксёндз Юзас Булька, які сваім адданым служэннем даў другое дыханне мосарскім мясцінам: “Ён прывіваў любоў да бліжніх, нёс людзям прыгажосць, таму мы спадзяёмся, што гэтая намоленая зямля дасць чарговы штуршок нашаму машынабудаванню”.

Затым адбылося ўручэнне ўзнагарод. Пераможцам першага этапу ралі стаў Руслан Барсук, сярод прадстаўнікоў віцебскага аграпрама пераможцам стаў трактарыст ААТ “Ліпаўцы” Андрэй Мацвееў. Узнагароды атрымалі і іншыя ўдзельнікі ралі.

Арганізатары выказалі спадзяванне, што гэта мерапрыемства стане традыцыйным і ў наступным годзе зноў збярэ ўдзельнікаў і гледачоў.



**Дарагія сябры!**

**З’явілася новая магчымасць дапамагчы газеце “Каталіцкі Веснік” фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

**Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:**

1. **Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:**
   ***363*375295105172*2#**
2. **Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.**
3. **Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:**
   ***363*[код пацвярджэння]#**
4. **Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.**

**Увага!**

**Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.**

**Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.**

**Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты “Каталіцкі Веснік”! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!**

*Рэдакцыя газеты “Каталіцкі Веснік”*

# Ці можа каранацыя Будслаўскага абраза атрымаць статус дзяржаўнага свята?

**У Польшчы ў 2017 годзе юбілей каранацыі абраза Маці Божай Чэнстахоўскай адзначаць як дзяржаўнае свята. “Каталіцкаму Весніку” стала цікава, што думаюць чытачы на гэты конт і ці магчыма падобнае ў нашай краіне.**

Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў сацыяльных сетках: Facebook, Укантакце, Аднакласнікі.




**Усяго – 243 адказы.**

**Каментарый чытачкі “Каталіцкага Весніка” на Фэйсбуку:** Ганна Фацеева: “А давайце пачнем маліцца ў гэтай інтэнцыі”.


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб’яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:** рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 996

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3500 экз.
Аб’ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 15.02.2017 г. у 11.30

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь